


+TV ПРАГРАМА

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

4 КАСТРЫЧНІКА 2002 г. № 39/4173 КОШТ 322 РУБ















**«ЛіМ» ЗАЙМЕЎ ЭЛЕКТРОННЫ АДРАС. ПІШЫЦЕ ЛІСТЫ! GAZETA_LIM@TUT. BY**

Вядомаму празаіку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Івану Пташнікаву 7 кастрычніка спаўняецца 70 гадоў. Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 6—7.

**Фота Ул. Крука**

## КОЛА ДЗЁН

**Вось і прыйшла сапраўдная восень. Дажджы, замаразкі, вецер... Наперадзе зіма. Жыццё працягваецца...**

### ЗАЦВЕРДЖАННЕ ТЫДНЯ

На II пленуме ЦК Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі зацверджана структура маладзёжнай арганізацыі. У Цэнтральным, гарадскіх, раённых і абласных камітэтах будзе працаваць 672 супрацоўнікі. Кіруючыя органы будуць створаны да 1 лістапада. Цяпер дапрацоўваецца сімволіка БРСМ, вырашаецца пытанне з будынкам па вул. К. Маркса, 40, які будзе перададзены ў бязвыплатнае карыстанне маладзёжнай арганізацыі. Словам, у нашай моладзі ёсць усе магчымасці працаваць на карысць беларускай дзяржавы...

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

У адпаведнасці з трохбаковым пагадненнем кіраўнікоў урадаў Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Украіны Беларускаму рэспубліканскаму фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне" ў 1993 годзе было выдзелена 200 мільёнаў нямецкіх марак для аказання аднаразовай фінансавай дапамогі грамадзянам, якія пацярпелі ад нацыянал-сацыялісцкіх праследаванняў. За перыяд з 1993 года фінансавая дапамога аказана больш як 143 тысячам чалавек. У сувязі з тым, што практычна цалкам ажыццёўлены выплаты ўсім пацярпеўшым ад нацызму ў межах кампетэнцыі Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне", кантрольным саветам фонду прынята рашэнне з 1 студзеня 2003 года спыніць прыём заяў на фінансавую дапамогу. Грамадзяне, якія прэтэндуюць на атрыманне фінансавай дапамогі, павінны да ўказанага тэрміну падаць у фонд пісьмовую заяву.

### ЯКАСЦЬ ТЫДНЯ

На 10 тысяч насельніцтва нашай краіны прыпадае больш як 300 чалавек, якія вучацца ў ВНУ. Пра якасць атрыманай вышэйшай адукацыі гавораць вынікі розных міжнародных алімпіяд і спаборніцтваў, на якіх нашы хлопцы і дзяўчаты заваёўваюць прызавыя месцы. Словам і ў новым навучальным годзе на першыя курсы ВНУ, трэба спадзявацца, прыйшла моладзь, якая будзе вучыцца на выдатна і тыя адзнакі, якія былі атрыманы ў час прыёмных экзаменаў — невыпадковасць...

### ЧАКАННЕ ТЫДНЯ

На пачатку чэрвеня былі падведзены вынікі конкурсу праектаў помніка Янку Купалу, які будзе ўсталяваны ў Маскве. Пераможцамі сталі Леў Гумілеўскі і яго сын Сяргей. Узнёслая постаць паэта, а побач неад'емны сімвал пошукаў шчасця папараць-кветка — так выглядае помнік. Беларускі бок дагэтуль чакае афіцыйнага вызначэння мэрыяй Масквы месца пад помнік. Магчыма, Янка Купала размесціцца ў Маскве на Кутузаўскім праспекце. Калі гэта свята будзе — пакуль невядома...

### МАРКА ТЫДНЯ

У абарачэнне ўведзена паштовая марка, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры, народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Паштовая мініяцюра наміналам 100 рублёў зроблена паводле эскіза мастака Мікалая Рыжага і аддрукавана тыражом 85 тысяч 740 асобнікаў.

### РАСПАРАДЖЭННЕ ТЫДНЯ

30 верасня прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Генадзь Навіцкі наведаў Мінскі чыгуначны вакзал. Агледзеўшы будоўлю, ён даў распараджэнне, каб да пачатку 2003 года будаўніцтва было цалкам завершана. Каб завяршыць будаўніцтва трэба каля 26 мільёнаў рублёў.

### РОСТ ТЫДНЯ

Усё больш і больш гаворыцца, што ўклады выгадней рабіць у нацыянальнай валюце. Гэта пацвярджаюць і лічбы. Так, уклады насельніцтва ў беларускіх рублях за 7 месяцаў узраслі на 253976,5 мільёна і дасягнулі 580437,8 мільёна рублёў, а ў замежнай валюце — павялічыліся на 33,4 мільёна долараў (агульная іх сума склала 348,2 мільёна долараў). Адпаведна, прырост укладаў у нацыянальнай валюце склаў 77,8 працэнта, у замежнай — 10,6.

### МАНЕТЫ ТЫДНЯ

У ліпені споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння славутага на ўвесь свет навукоўца, даследчыка Чылі Ігната Дамейкі. Да юбілею Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь выпусціў дзве памятныя манеты. Срэбная манета мае вартасць 20 рублёў, выраблена з серабра 925-ай пробы. На правым яе баку — дзяржаўны герб Беларусі, на левым — рэльефныя выявы партрэта Дамейкі, геалагічнага малатка і ўстаўка з камня, падобнага на мінерал дамейкіт. На левым баку медна-нікелевай манеты вартасцю 1 рубель устаўка з каменя адсутнічае, на яе месцы — рэльефная выява гор. На абодвух манетах прысутнічае таксама рэльефная выява горнага ланцуга ў Андах, названага ў гонар нашага земляка. Наклад срэбнай манеты — 1000 штук, медна-нікелевай — 2000. Манеты ўвайшлі ў абарачэнне з 2 верасня.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

1 кастрычніка стала цёпла (ва ўсякім разе павінна было) у дзіцячых садках, школах і бальніцах. Цяпло ў кватэры прыйдзе крыху пазней. Яно будзе не танным. Мяркуючы нават па вераснёўскіх расцэнках, падчас ацяпляльнага сезона сума платы за стандартную, аднапакаёвую кватэру агульнай плошчай 32 квадратныя метры, дзе пражываюць два чалавекі, складзе ў сярэднім больш за 30 тысяч рублёў. За двухпакаёвую (48 квадратных метраў, 3 чалавекі) трэба будзе плаціць 44,2 тыс. рублёў, за трохпакаёвую (69 кв. м., 4 чалавекі) — больш як 60 тыс. рублёў. Няслаба...

---

***1 кастрычніка ў Доме літаратара адбылося паседжанне рэдакцыйнай камісіі XIV нечарговага з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў. Рэдакцыйная камісія, выконваючы рашэнне з'езда, разгледзела заўвагі, дапаўненні і прапановы дэлегатаў з'езда да праекту рэзалюцыі і зацвердзіла яе канчатковы тэкст.***

# РЭЗАЛЮЦЫЯ
## XIV НЕЧАРГОВАГА З'ЕЗДА САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Мы, дэлегаты нечарговага XIV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў, усведамляючы лёсавызначальную адметнасць і значнасць моманту, які перажывае сёння наша краіна, і застаючыся вернымі той грамадзянскай пазіцыі, якую на працягу стагоддзяў адстойвалі лепшыя прадстаўнікі нашага народу, лічым сваім патрыятычным абавязкам і сваёй прафесійнай задачай служыць святой высакароднай справе нацыянальнага, культурнага і духоўнага адраджэння, станаўленню Беларусі як суверэннай, незалежнай, дэмакратычнай дзяржавы.

Зыходзячы з гэтага, мы рашуча пратэстуем супраць імперскіх памкненняў расійскіх уладаў інкарпараваць Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі. Мы адмяжоўваемся ад тых палітычных сілаў нашай краіны, якія выказваюць згоду з такой палітыкай Расіі, фактычна спрыяюць яе ажыццяўленню, што выяўляецца ў размыванні беларускай дзяржаўнасці, перш за ўсё ў нацыянальна-культурнай і адукацыйнай сферах. Кніжны рынак Беларусі практычна запалонены расійскімі выдавецтвамі, якія, маючы шырокія прэферэнцыі ад свайго ўрада, фактычна збанкруцілі, падвялі да краху беларускае кнігадрукаванне.

Мы канстатуем, што, на жаль, адносіны паміж уладаю і Саюзам беларускіх пісьменнікаў далёкія ад паразумення і ўзаемнай павагі і набылі канфрантацыйны характар. У некаторых сродках масавай інфармацыі ставяцца пад сумнеў гонар і годнасць вядомых не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі беларускіх літаратараў; адчужана ўласнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў – Дом літаратара і будынак паліклінікі; з грубым парушэннем юрыдычных і маральных нормаў зменены статус рэдакцый перыядычных літаратурных выданняў.

Мы, беларускія пісьменнікі, лічым, што літаратура як адзін з галоўных складнікаў культуры і духоўнага самасцвярджэння нацыі павінна займаць годнае месца, карыстацца паважлівымі адносінамі і падтрымкай з боку дзяржавы і грамадства, як гэта робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах свету. Мы не імкнемся да канфрантацыі і заяўляем: калі ўлады на справе зацікаўлены ў захаванні, развіцці і ўмацаванні беларускай дзяржаўнасці, дэмакратыі і культуры, яны знойдуць сярод беларускіх пісьменнікаў шчырых саюзнікаў і паплечнікаў.

Мы лічым, што дзяржава як вышэйшая арганізацыйная структура народа павінна забяспечыць належныя ўмовы для ўжытку і развіцця дзяржаўнай беларускай мовы ва ўсіх сферах нашага жыцця.

Мы настойваем на выкананні Закона аб мовах і адпаведнай канстытуцыйнай нормы, на аднаўленні адмененага ў гэтым годзе міністэрствам адукацыі абавязковага экзамена па беларускай літаратуры ў сярэдняй школе.

Мы спадзяемся, што з мэтай шырокага вяртання беларускіх выданняў на кніжны рынак краіны будуць тэрмінова вызначаны і ажыццёўлены эфектыўныя пратэкцыяніцкія меры па падтрымцы айчыннага кнігадрукавання і ўведзены падаткі на продаж кніжнай прадукцыі замежных выдаўцоў з тым, каб гэтыя сродкі былі выкарыстаны на карысць нацыянальнай культуры, літаратуры і мастацтва. Пераканаyы, што для нармалізацыі сучаснага літаратурнага працэсу, вяртання яго ў спрыяльнае творчае рэчышча неабходна перагледзець рашэнне аб арганізацыі бюракратычнай рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва", якое было створана без належных эканамічных абгрунтаванняў, з грубым парушэннем заканадаўства, правоў творчага саюза і рэдакцыйных калектываў. Значным крокам да нармалізацыі стасункаў паміж нашай творчай арганізацыяй і ўладаю стала б вяртанне Саюзу беларускіх пісьменнікаў яго ўласнасці – Дома літаратара і будынку паліклінікі.

З'езд выказвае ўпэўненасць, што творчая і грамадская дзейнасць кожнага беларускага пісьменніка будзе вызначацца вернасцю высокім прынцыпам грамадзянскай адказнасці за лёс роднай літаратуры і лёс Бацькаўшчыны як незалежнай дэмакратычнай і свабоднай дзяржавы.

г. Мінск

**Прынята 24 верасня 2002 года**

---

**Семінары**

# «ВЕРАСЕНЬ — 2002»

**Раніцай 19 верасня ў вялікай зале Дома літаратара члены Саюза беларускіх пісьменнікаў сустракалі гасцей — удзельнікаў Рэспубліканскага літаратурнага семінара "Верасень — 2002". Чаму "верасень", мяркую, тлумачыць не трэба; а "2002" — таму што адбываюцца такія семінары штогод, і штогод у іх прымаюць удзел маладыя паэты і празаікі з усёй Беларусі.**

Гэтым разам удзельнікаў было няшмат — усяго 24. (Але ж хіба ў колькасці справа?..) Амаль усе яны — з Мінска, акрамя Уладзіміра Пінаева з Полацка і Святланы Сінькевіч з Жодзіна, але і яны былі як дома калі не ў Мінску, то ў Доме літаратара, бо з'яўляюцца членамі аб'яднання "Літаратар", што працуе пры Саюзе пісьменнікаў. Дарэчы, з таго ж творчага згуртавання паходзілі амаль усе ўдзельнікі семінара. (Не выключэнне і аўтар гэтага артыкула.)

Адкрыў семінар Алесь Масарэнка — літкансультант Саюза пісьменнікаў, — які ўзначальвае наша літаб'яднанне. Нагадаў ён, дарэчы, у сваім выступленні, і пра зборнік твораў "Панядзелак" што рыхтуецца да выдання. (Зборнік атрымаў такую назву, таму што масарэнкаўцы сустракаюцца заўсёды па панядзелках.)

Вяла пасяджэнне Вольга Іпатава. Яна ж і распачала тое, што ў афіцыйных мерапрыемствах прынята называць урачыстай часткай. Перад моладдзю выступілі сталыя і вядомыя пісьменнікі, такія як Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Міхась Скобла, Алесь Рыбак, Міхась Чарняўскі, Алесь Пашкевіч... Шматгаварылі пра цяжкасці і праблемы, але ўсё ж больш — пра падзеі і спадзяванні, якія звязвалі з маладым літаратурным пакаленнем. Прыгадвалі і часы сваёй маладосці, свае семінары, свае першыя сустрэчы з класікамі...

Далей пачалася творчая работа секцый, дзе адбывалася знаёмства, чытанне і абмеркаванне вершаў і прозы ўдзельнікаў семінара.

Пасля абеду (так-так! як вядома, "не хлебам адзіным...", але блага, калі маладыя таленты галадаюць!) дык вось, пасля абеду работа секцый цягнулася яшчэ гадзіны дзве, але і гэтага часу некаторым аказалася недастаткова.

А ў праграме семінара быў яшчэ конкурс на лепшы твор. І пакуль усе чакалі яго пачатку, мне ўдалося даведацца пра некаторыя сюрпрызы журы конкурсу. Напрыклад, пра тое, якія прызы будуць уручаны пераможцам: вядома ж, гэта былі кнігі (за першае месца — "Беларуска-рускі слоўнік", за другое — "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага, за два трэція месцы — вядомыя кніжкі "Я з вогненнай вескі").

...І вось усе ўжо зноў сабраліся ў вялікай зале, але на гэты раз слова мела маладое пакаленне. Паэты чыталі па тры вершы, празаікі — па адным апавяданні. Пра што піша зараз моладзь?.. А ўсё пра тое ж, шчырае і светлае: пра каханне, пра радзіму, пра прыгажосць... Часам — пра боль, смутак і адзіноту... Але па-свойму...

А журы конкурсу (В. Іпатава, А. Масарэнка, М. Скобла, А. Рыбак, В. Якавенка) усё руплівa занатоўвала і ставіла адзнакі, як у школе.

А можа, гэта і ёсць школа. Толькі школа літаратурная, творчая. Хоць і адзнакі гэтыя — умоўныя, і навучанне — таксама ўмоўнае, бо нельга навучыць прызванню творцы, як ні старайся.

...У дыпломе, які атрымаў кожны з удзельнікаў, напісана: "Жадаем поспехаў на светлым шляху вашай творчасці на карысць роднай Беларусі!" І нават калі не ўсе з удзельнікаў семінара сцвердзяць свае здольнасці ў беларускай літаратуры, яны больш годна сцвердзяць свой чалавечы талент — заставацца людзьмі творчымі. Па сутнасці найперш гэта і ставілася мэтай семінара маладых беларускіх літаратараў.

**Таццяна СВЕТАШОВА**

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ



**Людміла Андзілеўка** (Андзілеўка Людміла Фёдараўна) нарадзілася ў сялянскай сям'і 13 лютага 1958 года ў горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці. Скончыла восем класаў агульнаадукацыйнай і шэсць класаў музычнай школы, пасля вывучала класічны баян і кіраўніцтва самадзейным аркестрам народных інструментаў у Наваполацкім музычным вучылішчы, пасля заканчэння якога працуе ў Падсвільскай дзіцячай музычнай школе (спачатку выкладчыкам баяна і аркестра, а з 1984 года – дырэктарам), пазней скончыла Мінскі універсітэт культуры. Пісаць пачала ў дзяцінстве. У 1994 годзе чатыры празаічныя абразкі апублікаваў штотыднёвік "Літаратура і мастацтва". Потым друкавалася ў часопісах "Маладосць", "Вожык","Нёман", "Беларусь" і іншых. У "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" пабачыла свет кніга "Проста ноч на двары".

Рэкамендавалі Генрых Далідовіч, Марыя Баравік, Віцебскае абласное аддзяленне СБП.



**Ніна Гарагляд** (Гарагляд Ніна Васільеўна) нарадзілася 20 лютага 1952 года ў мнагадзетнай сям'і на хутары Паўлінава Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Рана засталася без бацькі, выхоўвалася ў Целяханскім дзіцячым доме. У 1969 годзе скончыла Лышчанскую сярэднюю школу, пасля заканчэння якой паступіла на аддзяленне журналістыкі БДУ. Працавала піянерважатай Лышчанскай СШ. У 1970 годзе паступіла ў Брэсцкі педагагічны інстытут на філалагічны факультэт. З 1972 года працавала ўчотчыкам пісьмаў на Брэсцкім тэлебачанні і радыё, затым два гады настаўнічала на Камянеччыне. У 1974 годзе стала працаваць літсупрацоўнікам у камянецкай раённай газеце "Навіны Камянеччыны". У 1976 годзе была прызначана загадчыцай аддзела пісьмаў і сацыяльных праблем, у 1996 годзе – намеснікам рэдактара. Член Саюза журналістаў, узначальвае пры раённай газеце літаб'яднанне "Пушчанка". Першыя апавяданні, абразкі Ніны Гарагляд былі апублікаваны ў часопісе "Маладосць". У 1979 годзе нізка вершаў была змешчана ў зборніку "Нашчадкі", які выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". У 1995 годзе выйшла кніга вершаў "Матчына песня". Друкавалася таксама ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", у газеце "Рэспубліка", у зборніках "Дзень паэзіі".

Рэкамендавалі Васіль Жуковіч, Анатоль Дэбіш, Брэсцкае абласное аддзяленне СБП.



**Уладзімір Гаўрылові** (Гаўрыловіч Уладзімір Мікалаевіч) нарадзіўся 30 жніўня 1967 года ў вёсцы Вятчын Жыткавіцкага раёна. Пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Вятчынскай сярэдняй школе, служыў у войску, быў дырэктарам школы ў вёсцы Бялёў. Зараз – галоўны рэдактар Жыткавіцкай раённай газеты "Новае Палессе". Першыя апавяданні надрукаваў у 1991 годзе ў часопісе "Маладосць". Потым былі публікацыі ў "Чырвонай змене", "Настаўніцкай газеце", "Гомельскай праўдзе". Выдаў кнігі прозы "Позняя яблыкі", "Глыбокія карані", зборнік апавяданняў " "Забранае шчасце" ў "Бібліятэчцы часопіса "Маладосць".

Рэкамендавалі Анатоль Казлоў, Алесь Марціновіч, Віктар Гардзей, Гомельскае абласное аддзяленне СБП.



**Мікола Захаранка** (Захаранка Мікола Андрэевіч) нарадзіўся 13 мая 1949 года ў мястэчку Васілевічы Рэчыцкага раёна. Пасля заканчэння Васілевіцкай сярэдняй школы паступіў у Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў слесарам Гомельскага лакаматыўнага дэпо, загадчыкам сельскага клуба саўгаса "Ведрыч", грузчыкам Гомельскага чыгуначага ОРСа, настаўнікам музыкі, фізкультуры і фізікі Борхаўскай васьмігодкі. У 1971 годзе паступіў на завочнае аддзяленне філфака БДУ. У Швабскай сярэдняй школе Лагойскага раёна выкладаў беларускую мову і літаратуру, потым працаваў мастацкім кіраўніком мясцовага Дома культуры, потым рабіў цесляром на Поўначы. З 1993 года працуе настаўнікам музыкі і выкладчыкам сусветнай культуры ў Швабскай сярэдняй школе. Друкаваўся ў часопісах "Полымя", "Вясёлка", штотыднёвіку "ЛіМ", газетах "Голас Радзімы", "Вячэрні Мінск", "Звязда" і іншых. Аўтар шматлікіх драматычных твораў, тэлесцэнарыяў, апавяданняў, артыкулаў, нарысаў, твораў для дзяцей. Апошнім часам працуе таксама ў жанры паэзіі.

Рэкамендавалі Алесь Петрашкевіч, Сяргей Законнікаў, Андрэй Федарэнка



**Ніна Рыбік** (Рыбік Ніна Аляксееўна) нарадзілася 16 студзеня 1962 года ў вёсцы Уласы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і калгаснікаў. Пасля заканчэння школы паступіла ў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, пазней завочна закончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працавала бібліятэкарам, карэспандэнтам хойніцкай раённай газеты "Ленінскі сцяг", загадчыкам аддзела сельскай гаспадаркі газеты "Астравецкая праўда". Зараз працуе галоўным рэдактарам газеты "Астравецкая праўда". Апавяданні Ніны Рыбік друкаваліся ў часопісе "Маладосць", штотыднёвіку "ЛіМ", у "Народнай газеце", "Звязде", зборніках "Прайсці праз зону" і іншых. Аўтар празаічнай кнігі "Права на адсяленне".

Рэкамендавалі Барыс Пятровіч (Сачанка), Мікола Гіль, Гродзенскае абласное аддзяленне СБП.



**Віктар Слінко** (Слінко Віктар Віктаравіч) нарадзіўся 4 чэрвеня 1972 года ў Івацэвічах. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка. Працуе старшым лабарантам на кафедры беларускай і рускай моў Мінскага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта. Вершы друкаваліся ў часопісах "Крыніца", "Першацвет", Маладосць", штотыднёвіку "ЛіМ", у газетах "Чырвоная змена", "Культура", "Наша слова", у альманаху "Дзень паэзіі". Выдаў кнігі паэзіі "Апошні снег" і "Штольні вясны". Лаўрэат літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес", прысуджанай Таварыствам вольных літаратараў за кнігу "Штольні вясны".

Рэкамендавалі Віктар Гардзей, Міхась Скобла, Леанід Дранько-Майсюк.



**Аляксей Філатаў** (Філатаў Леанід Георгіевіч) нарадзіўся 13 мая 1939 года ў вёсцы Бабінічы Віцебскага раёна.Выхоўваўся ў сям'і прыёмных бацькоў. Працаваў брыгадзірам, дарожным майстрам, супрацоўнікам рэдакцыі Брэсцкай раённай газеты "Заря над Бугом", метадыстам Брэсцкага раённага аддзела народнай адукацыі, дырэктарам Брэсцкай дзіцячай спартыўнай школы. Зараз – настаўнік Мухавецкай сярэдняй школы. Гумарэскі, апавяданні, апошэцці, мініяцюры А. Філатава друкаваліся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", "Бярозка", альманаху "Берасцейскія карані", прыватных выдавецтвах. Пабачылі свет кнігі прозы "Дарога", "Ляхавіцкая торба" і іншых.

Рэкамендавалі Анатоль Дэбіш, Мікола Купрэеў, Брэсцкае абласное аддзяленне СБП.



**Сяргей Чыгрын** (Чыгрын Сяргей Іванавіч) нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча, філалагічны факультэт БДУ. Служыў у войску, настаўнічаў, працаваў карэктарам раённай газеты "Слонімскі веснік", загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага беларускага драмтэатра. Зараз намеснік рэдактара "Газеты Слонімскай". Першы верш быў апублікаваны ў 1975 годзе ў часопісе "Бярозка". У беларускім і замежным друку выступае таксама як перакладчык, краязнавец, літаратуразнавец. Пераклаў на беларускую мову паасобныя вершы французскіх і украінскіх паэтаў, шэраг драматычных твораў . Выдаў кнігі "Янка Купала і Слонімшчына", "Вяртанне да сваіх", зборнікі паэзіі "Шчырая Шчара", "Горад без цябе".

Рэкамендавалі Міхась Скобла, Алег Лойка, Адам Мальдзіс, Алесь Бельскі.



**Алена Якаўлева** (Якаўлева (Зароўная) Алена Леанідаўна) нарадзілася 20 жніўня 1971 года ў вёсцы Ігрушка Крупскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Скончыла Літаратурны інстытут імя А.М.Горкага. Вершы паэтэсы друкаваліся ў газетах "Чырвоная змена", "Знамя юности", "Сям'я", "ЛіМ", у часопісах "Бярозка", "Вясёлка", "Работніца і сялянка", "Алеся", "Маладосць", "Першацвет", "Крыніца" і іншых. Выдала кнігі паэзіі "Мае сябры – басаногія вятры", "На ўзбярэжжы цішыні". Займаецца таксама перакладамі з англійскай мовы.

Рэкамендавалі Васіль Макарэвіч, Міхась Скобла, Ала Канапелька, Леанід Галубовіч.

## АФІША

# ТЭАТРАЛЬНЫЯ СТРАСЦІ ЦІ ПРЫВІТАННЕ, ДОН КІХОТ!

У верасні адкрыліся сезоны амаль ва ўсіх тэатрах сталіцы. Нягледзячы на тое, што "у Маскве Беларусь лічыцца тэатральнай правінцыяй" (цытую маладога беларускага драматурга А. Курэйчыка, удзельніка нядаўняй "Начной размовы" на БТ), тут па-ранейшаму віруе тэатральнае жыццё. Праўда, катастрафічны недахоп грошай дазваляе адным тэатрам пачынаць новы сезон толькі са старога, але "абноўленага" спектакля. Другім удаецца выкруціцца лепш – запрасіць у тэатр на чарговую прэм'еру...



Прэм'ернымі спектаклямі парадавалі мінчукоў Дзяржаўны маладзёжны тэатр (рэжысёр В. Катавіцкі паставіў камедыю "Страсці ў Віндзоры" паводле В. Шэкспіра), Дзяржаўны тэатр лялек (тут разыгралі дзіцячы спектакль "Кінуты усімі"), Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі ( гледачы ўбачылі фолк-оперу "Адвечная песня" Я. Купалы ў рэжысуры С. Кавальчыка). Нечакана на адкрыцці сезона купалаўцы паказалі "Князя Вітаўта" А. Дударава. Напэўна, упершыню на першай сцэне краіны не загучаў гапасок Паўлінкі. Але гэта не перашкодзіла купалаўскай трупе атрымаць святочныя віншаванні з нагоды адкрыцця сезона ад Прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі. Абноўленай камедыяй "Адзіны наследнік" Ф. Рэньяра распачаў сезон Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага. У першай дэкадзе кастрычніка адкрые сезон Мінскі тэатр драмы "Дзе-Я?" Тут чакаюцца адразу дзве прэм'еры: "Песня мая" паводле твораў Я.Купалы, а таксама "Гарбата з вярблюдам" Г. Марчука.

У кожнага з мінскіх тэатраў свае планы. Напрыклад, у Маладзёжным тэатры хутка адбудзецца яшчэ адна прэм'ера: рэжысёр І. Малой ставіць камедыю Л. дэ Вегі "Вынаходлівая закаханая". Да новага года галоўны рэжысёр тэатра В. Катавіцкі плануе ўвасобіць на сцэне "Жанчыну ў пясках" К. Абэ. Бліжэйшая прэм'ера ў Купалаўскім тэатры – "Згублены рай" А. Курэйчыка ў рэжысуры В. Раеўскага. (Дарэчы, фігура нашага драматурга А. Курэйчыка – знакавая ў гэтым сезоне. Прынамсі, на новай эксперыментальнай сцэне МХАТа ставіцца яго́ная гістарычная драма "П'емонцкі звер".) У кастрычніку афішу Купалаўскага тэатра ўпрыгожаць нядаўнія прэм'ерныя спектаклі "К'еджаўскія перабрэхі" К. Гальдоні і "Муж для паэтэсы" А. Паповай. Багатая на новыя спектаклі афіша Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. У кастрычніку на сцэне гэтага тэатра можна ўбачыць "Чарнобыльскую малітву", "Зону Х", "Песні ваўка". У Рускім тэатры з нядаўніх прэм'ер у гэтым месяцы ідзе "Калігула" А. Камю, а таксама "Люці" А. Дударава, а ў Маладзёжным – "Трамвай "Жаданне" Т. Уільямса.

Трэба адзначыць, што сёлета атрымала мацнейшую рэкламу ў прэсе наша антрэпрыза. Так, у верасні "Віртуозы сцэны" разам з маскоўскім тэатрам "Школа сучаснай п'есы" прадставілі сумесны расійска-беларускі тэатральны праект "З прывітаннем, Дон Кіхот!" Гэты вясёлы, забаўляльны спектакль з элементамі клаунады, оперы, балета паставіў знакаміты расійскі рэжысёр І. Райхельгауз. Хутка гэтай пастаноўцы складзе сапраўдную канкурэнцыю новы спектакль М. Пінігіна "Вячэра з дурнем" Ф. Вэбера, сумесны праект "Ніколатэатра" і "Альфа-радыё". У абодвух спектаклях заняты цудоўныя беларускія акцёры А. Акуліч (Дон Кіхот), Э. Сакура (Дульсінея), В. Манаеў ("дурань" Франсуа Піньён), С. Журавель (выдавец Пьер Брошан)...

**Д.Т.**

*НА ЗДЫМКУ: Князя Вітаўта (Г. Давыдзька) вітаюць апладысментамі...*

**Фота А. Мацюша**

# ДАДАТАК АД КШЫШТАФА ЗАНУСІ

Вядомага польскага рэжысёра Кшыштафа Занусі я паважаю за неверагодную сціпласць, ветлівасць, дабрыню, якія, здаецца, зусім не павінны быць уласцівыя кінарэжысёрам такога ўзроўню. Верны католік К. Занусі вылучаецца спакойным, ураўнаважаным поглядам на жыццё. Пасля яго фільмаў адчуваеш радасць, спакой, прымірэнне...

У мінулую суботу спадар К. Занусі прадставіў у Мінску сваю новую карціну "Дадатак", якая з'яўляецца своеасаблівым працягам яго папярэдняй карціны "Жыццё, як смяротная хвароба, якая перадаецца палавым шляхам". Некалькі гадоў таму, калі рэжысёр працаваў над гэтым фільмам, ён палічыў, што гісторыя доктара, які вырашыў скончыць жыццё самагубствам, але потым прымірыўся з Богам, самая важная ў карціне. Таму з усяго здымачнага матэрыялу было выразана аж сорак хвілін, якія разам з новымі эпізодамі і склалі сюжэт "Дадатку". Тыя персанажы, якія ў "Жыцці.." былі не галоўнымі, цяпер выйшлі на пярэдні план, а галоўны герой стаў персанажам эпізадычным. "Дадатак" расказвае гісторыю маладога студэнта-медыка, які не можа вырашыць якім чынам служыць Богу: у манастыры ці ў бальніцы. К. Занусі прапаноўвае свайму герою выйсце, якое яшчэ даўно падказаў усім вернікам мудры Эклезіаст: "...бо няма лепшага для чалавека пад сонцам, як есці, піць і весяліцца..." Вядома, толькі спадзеючыся на Бога.

Фільм "Дадатак" прайшоў у поўнай зале кінатэатра "Масква". Пасля прагляду К. Занусі з радасцю адказаў на пытанні гледачоў, сустрэўся з журналістамі, дзе падзяліўся творчымі планамі. А мне згадалася яго леташняе інтэрв'ю ў газеце "Известия". Уганараваны за "Жыццё..." галоўным прызам Маскоўскага кінафестывалю, спадар Занусі казаў: "Кіно – гэта мастацтва, а значыць, яно што-небудзь можа. Паглядзіце, як моцна літаратура паўплывала на развіццё чалавецтва. Так і кіно. Яно не можа накіроўваць свет, але можа крышачку дапамагчы яму, каб свет не загінуў. Бо свет разбураецца кожны дзень, і трэба яму дапамагаць..."

**В. Б.**

# НАСТАЎНІК — ГАЛОЎНЫ ЧАЛАВЕК У ДЗЯРЖАВЕ

*НАТАТКІ ПРА НЯМЕЦКУЮ ШКОЛУ*

***У Беларусі ідзе рэформа школы. У Германіі таксама. Магчыма, менавіта зараз і будзе дарэчы гэта публікацыя — журналісцкія нататкі былога настаўніка аднаго з мінскіх прафтэхвучылішчаў пра тое, што і як робіцца ў нямецкай школьнай адукацыі.***

***У Германіі настаўнік — галоўны чалавек у дзяржаве.***

Жыць будзеш, як навучаць. Так казаў дзядзька Пятро Цымбал, сусед па маім вінніцкім замасцянскім доме. Вось вам і праграма для ўсіх настаўнікаў і ўрадаў, думаў я, калі размова заходзіла пра выкладанне, яго якасць, навізну...

У гэтай краіне вучаць і вучацца па-іншаму. Але, галоўнае, і вучаць, і вучацца. (Часам гэта адбываецца паасобку, і тады няма адукацыі.) Як тут вучацца? Думаю, што нядрэнна, улічваючы тое, як жывуць. Біяграфічны працэс жыцця магчымы пры трох умовах, як вучылі класікі марксізму: калі ў наяўнасці ёсць ежа, адзенне і жыллё, то жыццё ёсць. Усе гэтыя тры ўмовы ў Германіі "прысутнічаюць" у лепшым выглядзе. Усё гэта ёсць і нават у лёгкім дастатку, як мае быць у паважнай да сябе капіталістычнай краіне. Але хтосьці павінен усё гэта выраблаць. Неяк, калі я захапіўся прыгажосцю і багаццем Брэмена, дагледжанасцю яго дамоў, вуліц, дарог, паркаў, сажалак знаёмая немка сказала: "Я прашу цябе помніць: нічога з таго, што ты бачыш, не было немцам падаравана. Гэта ўсё — вынік іх працы". Але калі такі вынік, дык па законе дзядзькі Пятра Цымбала, атрымоўваецца, што вучаць і вучацца тут нядрэнна. Але ў многім для нас нязвыкла. Напрыклад, калі ты не хочаш вучыцца — не трэба, але ведай, што ў будучым зарплата ў цябе будзе невялікая, праца брудная і цяжкая, а якасць жыцця — не лепшая. Вось і ўсе справы. А ў нас? Не хочаш — прымусім! І настаўніка прымусім — тройку паставіць! Сярэдняя адукацыя абавязковая, гэтак пастанавілі партыя і ўрад, а грамадству — з табой, такім "выхаваным", — мучыцца...

Я дваццаць сем гадоў прастаяў-адсядзеў за настаўніцкім сталом і, верагодна, таму адчуваю яшчэ і маральнае права гаварыць аб праблеме школьнай адукацыі нават у Германіі, і не толькі з пункту гледжання журналіста. Працэс адукацыі ўсюды "аднолькавы": усюды, пачынаючы з пячоры, быў настаўнік, і быў вучань. І было тое, чаму настаўнік хацеў вучня навучыць. А вучань альбо хацеў ведаць, альбо не хацеў.

Я недарэмна падкрэсліў суб'ектыўнасць напісанага. Дзе вы бачылі ісціну ў апошняй інстанцыі? А тут яшчэ такая тонкая справа, як адукацыя. Недарэмна існавала думка, што горш за ўсіх ведаюць, якой павінна быць адукацыя, сапраўдныя члены Акадэміі педагагічных навук. Не трэба ўсміхацца. Можа, яны, акадэмікі, "горш" за нас ведаюць гэта, таму, што яны лепей за нас ведалі, што справа гэта "непад'ёмная", вялікая, складаная, як само жыццё і чалавек. Так, адукацыя, у некаторым сэнсе, "боская воля". У адукацыі і асабліва ў выхаванні (падзяліць гэта можна толькі тэарэтычна) не можа быць тыпізацыі і калектывізацыі. У гэтым я ўпэўніўся назаўсёды. Вынік тут можа даць толькі "хутарны" індывідуальны падыход, і працаваць павінны аднаасобнікі, майстры. Зусім не "так проста" яшчэ ў "тыя" дні Сухамлінскі ўжо ў малодшых класах вучыў дзяцей складаць казкі, супрацьпастаўляючы іх страшнаватай рэчаіснасці, рыхтуючы будучых людзей да духоўнай трываласці. Сёння дзяцей вучаць карыстацца аўтаматам і рабіць падрыўныя прыстасаванні.

Германія жыве нашмат лепей Беларусі, але многае ў гэтым "лепшым" мне не падабаецца. Скажам так: я люблю парадак, але я супраць "орднунга". У адносінах да нашай размовы, лічу, што ні ў чым і нідзе вучань не можа быць роўны настаўніку, акрамя зносін, якія яны самі наладжваюць паміж сабою ў працэсе выкладання-навучання. Падстава для роўнасці іх абодвух — яны людзі. Падстава "няроўнасці" — ён настаўнік, той, хто вышэй за бацьку, даўшага жыццё. Таму што настаўнік вучыць, як гэтым жыццём трэба "карыстацца". Тое, што я бачыў на ўроках у нямецкіх школах, прыводзіць да думкі, што фігура настаўніка не толькі прыніжана, але і злёгку зняважана. У нас нават у ГПТВ на ўроках так сябе не паводзяць: ні навучэнцы, ні настаўнікі.

"Панібрацтва" ў адносінах настаўнік-вучань павінна мець межы, а не быць выяўленнем "хвалёнай" дэмакратыі. Мне не падабаецца сітуацыя, калі дзеці "на галаве" ў настаўніка без яго згоды, а толькі з апраўданнем: "Гэта ж дзеці..." Па-мойму, "хаджэнне на галовах" на ўроках павінен, пры неабходнасці збросу назапашанай энергіі, "арганізаваць" сам настаўнік.

Мне не падабаецца, што для дзяцей эмігрантаў існуе і жыве крыху не тое стаўленне, якое дэкларуецца законамі дэмакратыі, высока ўзнятымі тут на шчыт. (Хаця, як выкладчык, я разумею, якія праблемы, цяжкія і раздражняючыя, прыносяць нямецкім настаўнікам дзеці эмігрантаў...)

Часам я наракаю на жорсткасць нямецкіх чыноўнікаў, недарэчнасць коштаў, а цяпер і на іх "вышыню", здзіўляюся і захапляюся нямецкай медыцынай, транспартам, будаўніцтвам, дарогамі, "шырынёй" і зручнасцямі іх крамаў... На ўсё гэта тая ж знаёмая немка адказвае і тлумачыць: "Капіталізмус". Магчыма, незразумеласць іх адукацыі крывабокая толькі для нас — а для іх, гэта вада, у якой яны плаваюць, гэта іх звычаі, звычкі — іх менталітэт. Будзем гэта памятаць, чытаючы гэтыя нямецкія нататкі.

Так, яны добра жывуць. Але прычыну таго, як жыве краіна, трэба шукаць у яе школе, у тым, як там пастаўлена адукацыя. У нямецкай школе пачатак таго, чаму мы з вамі "зайздросцім". Яны так вучаць сваіх дзяцей арганізоўваць вытворчасць і так на ёй прадаваць, што звычайная нямецкая сям'я без праблем (любімая фраза нямецкага народа) можа жыць і без праблем кожны год адпачываць з дзецьмі на любых курортах свету.

Ці значыць гэта, што нямецкая школа вельмі рэзультатыўная? Хтосьці сказаў, што немцы ганарацца сваёй сістэмай адукацыі не менш, чым сваім півам. Давайце паглядзім на нямецкую школу вачыма былога настаўніка, і падрыхтуемся да нечаканага.

Словам, пра нечаканае. Калі я даведаўся, што ў нарвежскіх крамах прадаецца селядзец 54 відаў, а ў Германіі толькі трыццаці чатырох, я паспачуваў нямецкім настаўнікам...

●

Палічыце, колькі разоў на вашай памяці, уключаючы час, калі вы былі школьнікам, і ўсё "астатняе" жыццё, калі вы яшчэ былі настаўнікам... колькі разоў рэфармавалі школу. Перыядычнасць гэтага "працэса" простая: як толькі да ўлады прыходзіць новы ўрад, так у школе — новая рэформа. Вучоныя-педагогі, тэарэтыкі, нядрэнна выкарыстоўваюць "момант" для кар'ерных узлётаў: камісіі, камітэты, дысертацыі, эксперыменты... Сапраўды, як жа абысціся без рэформы: урад сапраўды новы, а школа старая. Так справа не пойдзе — патрэбна рэформа. Не выключэнне і Германія. Тут таксама гадамі вядуць дыскусію аб рэформе школы, але саму рэформу, у адрозненне ад нас, апошні раз ажыццяўлялі трыццаць сем гадоў таму. Германія краіна стабільная, кавалерыйскіх наскокаў у сур'ёзных справах не практыкуе. А тут яшчэ такая складаная і тонкая справа, як школа. Дыскутаваць — колькі душы заўгодна, а рэформа... Гэта трэба добра абдумаць, а эксперыменты даручаць прагрэсіўным землям, даказаўшым сваё права паспяховай і выніковай практыкай сваіх школ.

Тую, трыццацісемігадовай даўніны рэформу "справакаваў", а дакладней, ініцыіраваў, гейдельбергскі педагог Георг Піхт. Ён напісаў кнігу "Катастрофа нямецкай адукацыі", якая і падняла краіну на сур'ёзную працу па перабудове аднаго з самых значных дзяржаўных інстытутаў — школы. У сваёй кнізе Піхт выказаў такую думку: "Сацыяльны статус чалавека і ступень яго асабістай свабоды вызначаецца ўзроўнем адукацыі, атрыманай у школе". Падумаўшы, разумееш, што школа, якая дала добрую адукацыю пасля яе рэфармавання, і стала падставай сталага дабрабыту і ўсіх поспехаў немцаў на працягу сарака апошніх гадоў.



Цяпер яны збіраюцца правесці другую рэформу. Усяго другую, хаця ўрад мяняўся, строга па законе, шматразова.

Кіраўнік адной з паўднёвых зямель гер Клемент на ўсю Германію заявіў: "Зараз нам патрэбна ўсеабдымная адукацыйная рэформа, магчыма, самая глыбокая з шасцідзесятых гадоў, калі Піхт загаварыў аб катастрофе адукацыі".

Недарэмна немцы загаварылі пра сваю школу: у гэтым каралеўстве не ўсё добра. А тут яшчэ абнародавалі звесткі агульнаеўрапейскага даследавання школьнай адукацыі. І атрымалася, што па выніках гэтага даследавання Германія займае ў Еўропе адно з апошніх месцаў. (Па многіх паказчыках — апошняе...) Тут ужо не да дыскусій: трэба пераходзіць да практыкі. І ў першую чаргу трэба ведаць, як ідуць справы са школай у розных землях рэспублікі. Праект ужо працуе, вынікі будуць вядомыя напрыканцы гэтага года. Дыскусіі таксама ідуць, але ўжо бліжэй да канкрэтных варыянтаў і мадэляў.

Узгаданы вышэй Клемент настойвае на такой рэформе, якая ператворыць нямецкую школу на манер скандынаўскай. Гэта значыць, што падрыхтоўка да школы павінна пачынацца ў дзіцячым садку і мець агульную для ўсіх праграму да восьмага класа ўключна. Апанентам Клемента гэта здаецца вельмі "сацыялістычным". Мы — за цвёрдую "дыферэнцыяцыю" навучання, — кажуць яны. — Школа павінна быць "падзелена" ў адпаведнасці са здольнасцямі вучняў. Існуючая сістэма аўтаматычна адбірае вундэркіндаў, проста здольных, і мала здольных.Ураўнілаўкі тут не павінна быць. Сёння ў іхнай школе спецыялізацыя мяркуецца ўжо пачынаючы з чацвёртага класа, а Клемент прапаноўвае — з дзевятага. "Гэта зніжае агульны ўзровень навучэнцаў: здольныя вымушаны будуць раўняцца да ўзроўню серадняко", — кажуць апаненты. "Праблемы не ў сістэме, а ў якасці і ў колькасці педагогаў. Пра якое скарачэнне можна гаварыць, калі нават сёння не паспяваем за прагрэсам", — настойваюць другія. "З прапанаванага можна пагадзіцца толькі з больш раннім тэрмінам навучання: няма чаго дзецям кідацца цацкамі, няхай лепей вучаць літары і лічбы", — даводзяць трэція.

Клемента падтрымлівае калега, кіраўнік Ніжняй Саксоніі Габрыэль: "Дзяцей трэба вучыць з пяцігадовага ўзросту. А іншаземным дзецям трэба даваць дадатковую моўную нагрузку з чатырох год. У школу трэба прыходзіць, ведаючы нямецкую мову".

І тут разумныя спыталі: пра якое ранняе навучанне на базе дзіцячага садка можа ісці размова, калі наведванне яго ў Германіі неабавязковае? Зноў геніі будуць сядзець з дурнямі за адной партай? Зразумела: у краіне павінна быць адзінае адукацыйнае поле. Калі працэс адукацыі пачынаць у дзіцячым садзе, дык для ўсіх дзяцей трэба стварыць роўныя стартавыя ўмовы.

Так вось і высвятляюцца перашкоды на шляху рэформы. Справа за тым, каб іх пазбавіцца. Як я зразумеў, жывучы тут некалькі гадоў, для немцаў — пазбавіцца — не праблема, праблема — высветліць.

Ёсць палажэнні ў праекце будучай рэформы, з якімі ўсе згодныя. Напрыклад, пра якія кажа ніжнесаксонец Габрыэль: дзеці эмігрантаў павінны вывучыць мову да школы.

Дыскусіі, практычныя намаганні, эксперыменты — рэформа патрэбная. Гэта для Германіі ўжо аксіёма. Што і як будзе зроблена? Пажывём, пабачым. Школа нямецкая — немцам і рэфармаваць яе. І магу вас упэўніць: калі немцы штосьці вырашылі, дык зробяць ужо абавязкова. Такі народ...

Рэформа — гэта нешта дэкларатыўнае і абавязковае для ўсіх. Але кожная рэформа мае "люфт", межы дапушчальнай свабоды ў яе рамках. Вось гэтыя межы ў немцаў больш шырокія і не толькі ў школьных справах. Наш прынцып "Не ўмееш — навучым, не хочаш — прымусім", — у Германіі не працуе.

У горадзе Геестхахце ў Шлёзвіг-Гальштыніі на базе мясцовага даследчага цэнтра з яго арганізаванай і фінансавай дапамогай адчынілася вучэбная лабараторыя для школьнікаў. Пра ўсё, што звязана з электрычнасцю, дзеці могуць тут даведацца і пабачыць. Сюды будуць прывозіць старшакласнікаў з усёй паўночнай Германіі.

Адкрываючы лабараторыю, міністр адукацыі зямлі Утэ Эрдзік-Рафэ сказала сапраўды нямецкія словы, якія можна пакласці ў ідэйны падмурак школьнай рэформы любой краіны: "Дзеці і моладзь не павінны губляць зацікаўленасці — гэта адзіны шлях да ведаў". Не прымушаць і не "вучыць" — зацікавіць. Так проста і так цяжка выканаць... Гэта найпершая задача для Настаўніка.

●

У розных крыніцах розныя звесткі. У адной з іх прачытаў, што непісьменных у Германіі не 7 мільёнаў, а 18. Але справа нават не ў лічбах, хаця яна выклікае збянтэжанасць: калі ў такой эканамічнай і культурна магутнай дзяржаве як Германія, наогул магчымая сёння гаворка пра непісьменных, прычым у такой колькасці... пра якую дыскусію з нагоды адукацыі і яе рэформы можна весці размову? Самы час вяртацца да пачатку — ліквідацыі непісьменнасці.

Непісьменныя грамадзяне ФРГ — гэта не жарт і не анекдот. Уявіце, як гэта ўспрынялі немцы, пазнаёміўшыся з вынікамі даследавання! Яно праводзілася ў 32 краінах свету, было апытана больш 250 тысяч падлеткаў ва ўзросце 15 гадоў. Правяраліся веды па прыродазнаўстве, уменне ўспрымаць прачытаны тэкст і ўменне лічыць. Вынікі, атрыманыя пасля праверкі шасці тысяч нямецкіх школьнікаў, аказаліся ніжэй за сярэднія паказчыкі. Выявіўся недапушчальна вялікі разрыў паміж добрымі вучнямі і "не вельмі добрымі". Сераднячкоў амаль не было.

Камісія выявіла трывожны факт: ні ў воднай з 31 краіны няма такой прамой і відавочнай залежнасці паміж сацыяльным станам дзіцяці і ўзроўнем яго ведаў, як у Германіі. (Вось, дзе вытыркнуліся шматгадовыя промахі ў галіне інтэграцыі дзяцей іншаземцаў, іх слабога ведання нямецкай мовы, з якой немагчыма нармальна вучыцца ў нямецкай школе. А кожны сёмы вучань Германіі — гэта дзіця іншаземца.)

Ёсць яшчэ адна прычына такога правалу немцаў на "сусветным чэмпіянаце" па школьнай адукацыі: нямецкія дзеці позна ідуць у школу. І яшчэ: у школе іх не напружваюць. Чаго каштуе толькі адзін факт: магчымасць двойчы застацца на другі год у адным класе. Хатніх заданняў тут не задаюць: дзеці павінны адпачываць дома. Часам даюць заданні, але... не правяраюць. Давяраюць...

Высветлілася, што веды нямецкіх "юніёраў" павярхоўныя і адрывачныя. Яны занялі 29 месца з 39 магчымых.

Застаецца дадаць для "цікаўных", што лепшымі па выніках даследавання былі школьнікі Канады, Аўстраліі і Новай Зеландыі. Дарэчы, менавіта ў гэтых краінах сёння самы высокі ўзровень жыцця — дзе ты, мінулае? — 14 месца ў свеце.

Пасля абнародавання звестак даследавання перапалохаліся бацькі ўсёй Германіі. У чым і як гэта адбілася? Прывяду прыклад з школьнага жыцця зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Бацькоўскі савет зямлі (ці не добра гэта гучала б: Бацькоўскі Савет Беларусі! Праўда?) запатрабаваў ад уладаў істотных зменаў у адукацыйнай сферы.

Першае, агульнае і галоўнае: школьны план павінен адказваць патрабаванням дзяцей у ведах, а не жаданням бацькоў і настаўнікаў. І перш за ўсё, павінны быць скарочаны ўсе вакацыі (нямецкія школьнікі адпачываюць 12 тыдняў на працягу года). Ёсць яшчэ вольныя ад заняткаў паслясвяточныя дні, іх, на думку бацькоў, трэба ліквідаваць.

У шэрагу патрабаванняў да кіраўніцтва школ ёсць і такое: больш актыўнае прыцягненне бацькоў да школьнага жыцця. Вельмі сур'ёзную і, верагодна, абгрунтаваную заклапочанасць бацькі выказалі з нагоды ўзроўню выкладання... Нават да праверкі прафесійных ведаў настаўнікаў, што да гэтага часу не рабілася. Бацькі лічаць, што такі ганебны стан, які выяўлены даследаваннем, з'яўляецца следствам незадавальняючай працы педагогаў.

Што там распачнуць улады Бадэн-Вюртэмберга ў адказ на раззлаваныя патрабаванні бацькоў, якія даверылі ім сваіх дзяцей, я не ведаю. Але тое, што мая кропка гледжання пра месца і значэнне Настаўніка ў школе і грамадстве супала з кропкай гледжання бацькоўскага савета цэлай зямлі, — мне прыемна.

**Навум ЦЫПІС**

**P.S. Цалкам нататкі пра нямецкую адукацыю будуць надрукаваны ў часопісе "Народная асвета".**

*НА ЗДЫМКУ: у класе нямецкай школы падчас заняткаў.*

# НЕЎПАРАДКАВАНЫЯ НАТАТКІ

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

## Праклён Боцева

У адной з публікацый, прысвечаных вялікаму рэвалюцыянеру і геніяльнаму паэту Хрысту Боцеву, я прачытаў тое, што раней мне на вочы не трапілася: ягоны праклён... свайму роднаму балгарскаму народу.

"Да бъде проклят народът, ако не възстане!.."

Па-руску гэта гучыць амаль даслоўна: "Да будет проклят народ, если он не восстанет!..". Па-беларуску — трохі іначай, без гэтага "Да бъде": "Пракляцце народу, калі ён не паўстане!.."

На пачатку 1876-га Хрыста Боцеў гуртаваў у суседняй Румыніі "чэту" (атрад) з ліку землякоў-эмігрантаў, гатовых разам з ім перабрацца ў Балгарыю, каб падняць народ на паўстанне — на барацьбу за вызваленне ад пяцісотгадовага турэцкага панавання. Цяжкія і неспакойныя былі напярэдадні гэтай гістарычнай дзеі яго думы: ці пойдзе за ім народ? ці далучыцца? ці падтрымае? Хацелася верыць, што пойдзе, паўстане, ды і звесткі з радзімы былі абнадзейныя. І аднак жа, аднак жа... Іншы раз забіраўся ў душу сумнеў: а што, калі не дай Бог — не? Калі страх і звыкласць з жыццём у няволі акажуцца мацнейшыя, чым прага свабоды і пачуццё чалавечай годнасці? Не дай Бог, калі высніцца, што ён памыліўся! Ну тады, тады... "Да бъде проклят народът, ако не възстане!.."

З невялікім атрадам "чэтнікаў" Боцеў высадзіўся на балгарскім беразе Дуная, каля Казладуя, рушыў у горы і... загінуў у першым баі. Вялікі паэт загінуў у адкрытай бітве!.. А народ — паўстаў. І пачалася страшная разня. І пацяклі рэкі крыві балгарскай. У сяле Батак у царкве заперліся каб не здацца туркам, шэсцьсот чалавек. І згарэлі жывымі. Гэта было ў 1876 годзе. За шэсцьдзесят сем гадоў да беларускіх хатыняў. Так што пачалі, як бачым, не гітлераўцы. Зрэшты, і ў Гітлера былі папярэднікі.

А ў 1877 годзе за Дунай рушылі расійскія войскі, сярод якіх былі тысячы беларусаў, — і шматвяковае асманскае ярмо было скрышана.

"Да бъде проклят, ако!.." Як жа трэба было любіць свой народ і як жа трэба было хацець убачыць яго свабодным — каб аж вырвалася з душы такое! Такое страшнае!.."

2001

## «Пара б стаміцца ад пошласці». Каб не «измерзопакоститься»

Гэта сказаў вялікі чалавек рускай культуры, знакаміты пісьменнік Віктар Пятровіч Астраф'еў, жыццё якога, на жаль, нядаўна абарвалася. Сказаў у гутарцы з карэспандэнтам ТАСС В. Даніленкам у Мінусінску, на пачатку зімы 1991 года (апублікавана 7 снежня ў газеце "Правда"). Заўважым: напярэдадні надзвычайнай гістарычнай падзеі — прыняцця ў беларускіх Віскулях дакумента аб тым, што дзяржава СССР ад гэтага часу перастае існаваць, і што пачынаецца новая старонка ў гісторыі народаў былога Савецкага Саюза, у тым ліку і рускага.

Ці прадчуваў, ці прадбачыў у тыя дні Астаф'еў, што здарыцца з "Саюзам непарушным"? Можа, і прадчуваў. Чалавек ён быў мудры і савецкае жыццё, савецкіх людзей і тое, што з імі (з намі) адбываецца, ведаў, бадай, так, як ніхто з сучасных расійскіх пісьменнікаў. Непасрэдна, прамым тэкстам, гутарка ў Мінусінску гэтае тэмы не кранулася. Размова ішла аб тым, што Астаф'еву найбольш балела — аб духоўным і маральным здрабненні чалавека на прасторах "вялікай Айчыны", аб растаптанні яго чалавечай годнасці, аб неверагодным апашленні нашага жыцця на шляхах да "развітога сацыялізму" і ў гэтым самым дасягнутым "развітым". Але па тым, што і як гаварыў Астаф'еў пра сваё набалелае, можна было рабіць зусім пэўную выснову: далей цярпець такое жыццё, а значыць — такі рэжым, такі грамадска-палітычны лад — нельга. І калі яшчэ мы канчаткова не "измерзопакостились" — мы павінны, мы мусім свой лёс рашуча перайначыць.

І час вялікіх перамен наступіў — "працэс пайшоў". Ён пачаўся з таго, што ў людзей адкрыліся вочы на нядаўняе мінулае. Людзі, казаў Астаф'еў, парвалі з "ідэалогіяй сталінскага бальшавізму, якая больш за семдзесят гадоў панавала над нашымі думкамі". Парвалі, бо жахнуліся ад той "паднаготнай" праўды жыцця, нашай рэчаіснасці, якую раптам убачылі і ўсвядомілі. Але – ці ж гэта не трагічны фінал для даверлівых і абалваненых..." Астаф'ева пераказваць немагчыма, і таму буду цытаваць. "Цяпер шмат гаворыцца пра страты народа ў войнах, пра страты ў гады сталінскіх рэпрэсій, пра нашчадкаў эміграцыі. Калі гэтыя факты выстройваюцца ў рад доказаў заганнасці нашага генафонду, я адразу ўспамінаю яшчэ адзін страшны аргумент, пра які чамусьці рэдка згадваюць. Адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны выйшаў закон, які забараніў аборты. І ўслед каля чатырох мільёнаў рускіх баб пайшлі на той свет. (...) Жанчыны рабілі ўпотайкі самааборты. Прывозілі іх у бальніцу ледзь жывымі. То з маятнікам ад насценнага гадзінніка ўнутры. То з коранем фікуса. Пілі яны, па дурной парадзе, бедныя, паяльную кіслату, глыталі порах (...) Калі мы кажам, што мужыкоў у нас выкасілі, то баб — вытравілі."

Пазнаеце Астаф'ева? Такі ён у сваіх аповесцях і апавяданнях, такі ў публіцыстыцы, такі ў размовах і гутарках. Такі ў кожным слове: шчыры да канца і ў гэтай сваёй шчырасці бясстрашна мужны. Пачытаем трохі далей: "Напэўна, своеасаблівым вынікам лютасці да народу з'яўляецца і агульны нізкі культурны ўзровень нацыі. А адсюль і цяга да гэтак званай масавай культуры. (...) Калі гэта павеў часу, свайго кшталту мода, то пара б ужо стаміцца ад пошласці". І яшчэ: "Усё ж і ў час выпрабаванняў павінна захоўвацца якаясь запаветнасць духоўная. Раней жа нейкая самавыхаванасць была, а цяпер самараспуста працвітае. (...) Хлопцы майго пакалення, героі вайны, здаралася, паміралі ў шпіталях толькі ад таго, што "утку" папрасіць сароменіся: кішэчнік камянеў. Я не заклікаю да падобнай стрыманасці, але хаця б не "измерзопакоститься".

Ах, незабыўны Віктар Пятровіч! Як яшчэ доўга, па ўсім бачна, будзе цябе нехапаць тым, каго ты назаўсёды пакінуў! І як жа мне шкада, што мы так рэдка сустракаліся і так мала гутарылі. Хоць у думках, схіляючыся над тваімі кнігамі і артыкуламі, я гутарыў з табой нярэдка. І заўсёды — як на духу, як на братняй споведзі.

Дзякую, дарагі, вялікі, слаўны чалавек!

2001, снежань.

## Справа, неймаверна цяжкая

Конкурс на тэкст Дзяржаўнага Гімна РБ, праведзены ў 1993 годзе, пераможцу не выявіў. Ніводзін дасланы тэкст нават блізка не адпавядаў патрабаванням, якія ў такім выключным выпадку да верша прад'яўляюцца. Праз дзевяць гадоў гісторыя паўтарылася: зноў ніхто з удзельнікаў конкурсу добрага, змястоўнага і сапраўды паэтычнага тэксту не напісаў. І не трэба здзіўляцца: гэта неймаверна цяжкая справа, неймаверна! Гэта магла б быць толькі бліскавічная разрадка божага дару: раптам нарадзіўся магутны і яркі гімнічны верш! Дык жа для гэтага як абавязковая ўмова трэба, каб людзі з божым дарам, гэта значыць, выдатныя паэты, прынялі ўдзел у конкурсе. У абедзвюх сітуацыях у Беларусі гэтага не было — не прынялі. Але калі б і прынялі — гарантый, што каго-небудзь з іх напаткала б удача, — ніякіх. Што гэта так — сведчыць гісторыя з конкурсам на тэкст Дзяржаўнага Гімна СССР, які быў праведзены ў снежні 1943 года.

У конкурсе прынялі ўдзел пяцьдзесят паэтаў. З іх каля дваццаці — па афіцыйным спіску, фактычна, абавязаныя прыняць удзел, у іх ліку бясспрэчна таленавітыя і вядомыя. Напрыклад, паспрабавалі злавіць птушку шчасця такія знакамітасці, як Міхаіл Ісакоўскі, Мікалай Ціханаў, Міхаіл Святлоў, Аляксей Суркоў, Вольга Берггольц, Канстанцін Сіманаў, Сцяпан Шчыпачоў, Васілій Лебедзеў-Кумач, Аляксандр Жараў, Яўген Далматоўскі і нават стары Дзям'ян Бедны. У Камітэт па справах мастацтваў пры СНК СССР паступіла 87 тэкстаў. Адзін Сямён Кірсанаў падаў адзінаццаць варыянтаў свайго "гімна" (во напінаўся, бедненькі!). Вынікі вядомыя: перамаглі, спараваўшыся, Сяргей Міхалкоў і Эль-Рэгістан. Іх тэкст, спалучаны з музыкай А. Аляксандрава, гучаў штодзённа над вялікай краінай амаль пяцьдзесят гадоў.

Цікава, у пэўным сэнсе, знаёміцца з тымі тэкстамі, якія "не прайшлі". Ураджанне, што некаторыя з вядомых паэтаў паставіліся не зусім сур'ёзна да творчага задання, далі што называецца "адчэпнага", паколькі адмовіцца зусім ад удзелу было небяспечна, далажылі б Сталіну. Думаю, што сёй-той з іх адчуваў: гімн, які патрэбны Сталіну, Молатаву, Жданаву, Берыю, Маленкову, Калініну, Кагановічу (яны былі членамі Палітбюро і калегіяльна прымалі рашэнне) — такі гімн сапраўдны паэт напісаць не можа. Такі гімн можа напісаць толькі спрытнюга-рыфмач, графаман. Сапраўднаму паэту так падрабіцца пад графамана вельмі цяжка — з яго абавязкова вылезе талент, — пры ўсім старанні патрапіць ідэйна-эстэтычным патрабаванням і густу "заказчыкаў". Абавязкова прарвецца жывы чалавечы голас — хоць нейкай ноткай,



рыскай, слоўцам, — а для сталінскага гімна гэта не трэба. Вядома, паэт можа спарадзіраваць такі вершаваны тэкст, але гімн — справа звышсур'ёзная, тут пра пародыю не магло быць гаворкі.

Зрэшты, можа, я і памыляюся. Можа, і сур'ёзна тварылі-пісалі паэты, а — не атрымалася. Атрымалася ж у сяго-таго нешта сапраўды падобнае на пародыю, асабліва калі глянуць сённяшнімі вачыма.

*Крепни же, славная*  
*Родина наша!*  
*Слався, державная,*  
*Выше и краше!*  
*Врагам на устрашение,*  
*Земли на украшение,*  
*Живи на счастье нам.*

(М. Ціханаў)

Або:

*Родина Ленина,*  
*Родина Сталина,*  
*Правдой народной крепка*  
*и сильна.*  
*Слався, свободнае*  
*Царство народное,*  
*Слався, Советская наша страна!*

(В. Лебедзеў-Кумач)

Пры Сталіне і Берыі — "свабоднае народнае царства"... Які горкі анекдот! Які здзек і з народу, і з элементарнага здаровага сэнсу!..

Ну, а што далі спяваць і слухаць шчаслівым савецкім людзям пераможцы-сааўтары? Нават рыфму прыстойную не знайшлі, як бездапаможныя аматары-пачаткоўцы, зарыфмавалі "Великая Русь" і "Советский Союз".

2002, ліпень

## Трохкроп'е Алеся Каско

Той выпадак, калі прачытаеш верш і хочацца перачытаць яшчэ раз, калі не ўвесь, то хоць асобныя строфы і радкі, удумацца ў іх, асэнсаваць, можа, нават пасмакаваць, і сказаць — моўчкі, а то і ўголас: "А каб ты быў здароў! Як жа хараша, га! Як мудра! Як вынашана! Як натуральна!.." Мнагавата "як"? Ды не, не залішне. Можна і дадаць: "Як праўдзіва, як бескампрамісна, як мужна!.."

*Дзе мой край? У свеце зорным,*  
*ілюзорным свеце чыстым,*  
*дзе няма прамоў казённых,*  
*алілуйнікаў падзённых*  
*і пагоннікаў плячыстых.*

*Там жыву зусім нядаўна,*  
*там жыву пакуль часова —*  
*рана шчэ мне жыць расстайна*  
*з той зямлёй, дзе мне світальна*  
*падарыла маці Слова.*

*З той зямлёй, дзе за вякамі*  
*Слова роднае збылося,*  
*і калі яно гукае —*  
*стаць у шэраг з дзецюкамі*  
*апускаюся з нябёсаў.*

Гэта — пра незвычайны край высокіх мар паэта, пра той край "дзе анёла не карае Бог за тое, што спявае ён сваёй анёльскай мовай".

А вось — пра свой час і сваю песню:

*Пабольш бы ў песні светлыні,*  
*паболей звонкасці, спакою...*  
*Ды стане песня не маёю,*  
*не пра мае раскажа дні.*  
*Сярод маны і мітусні*  
*ёй сорамна перад сабою*  
*ўзнікаць з прытворнага настрою,*  
*з азартнай слоўнае гульні.*

Бясспрэчна, песня такога паэта не можа ўзнікаць з гульні ў словы, калі атручаны дождж, атручана рака, а "плынь мовы роднай ледзь крынічыць".

А гэта — пра схварэлага старога сябра-брата, які, на парозе зімы, заводзіць скрушна пра тое, "што блізка, як падаць рукою, цяпер да вечнасці яму".

*Суцешыць — але як і чым,*  
*калі я сам перадзімовы?..*  
*Яго далонь, як ліст кляновы,*  
*маўкліва плача на плячы.*

А гэта — пра "азелянелае вока" жывёлы, якім яна, прыведзеная на бойню, ужо глядзіць "па той бок", але ў якім яшчэ не пагас "яе зялёны свет — лугі ды рэчак берагі".

*У воку ўсё і скрыжавана:*  
*зыход яе, быццё, выток...*  
*З крывёй, з травой недажаванай*  
*яно спадае ў латачок.*

А поўная драматызму "Балада начной сустрэчы"! А "Кругабег" — з яго пранізліва шчырай споведдзю? А гэткі ж праўдзівы, дакладны сколак са стану душы ў "Бяссонні"! А трыпціх "Адсяленне"! Колькі ж у ім балючай, горкай праўды пра ахвяр чарнобыльскіх вёсак, перасееных у горад вяскоўцаў, а па сутнасці — пра трагедыю Беларусі.

*Гэта вымус, абавязковасць,*  
*але горычы не ўтаю:*  
*разбівае на друз вясковец*  
*мову, памяць, душу сваю.*

Паэту, які сам "родам з вялікіх траў, з сівой ракі", гэта асабліва баліць. Звычайная бяда чытача, які хоча падзяліцца радасцю ад сустрэчы з Паэзіяй — немагчымасць падаць у кароткім водгуку хоць бы самыя лепшыя вершы, каб і іншыя перажылі тое, што, чытаючы, перажыў ты.

У паэтычнай кнізе Алеся Каско "Трохкроп'е" змешчана і жменька яго празаічных "запісаў". Яны як бы паясняюць (для мяне, прынамсі), чаму так сур'ёзна працуе, а дакладней — жыве ў паэзіі гэты таленавіты майстар слова. Яны, можна сказаць, — працяг яго паэзіі як выяўленне той жа чалавечнасці, мудрасці, натуральнасці і прастаты, — таго, што прымушае слухаць і верыць. Выяўленне праўдзівасці, душэўнай шчодрасці, дабрыні. Іх гэтак жа цікава чытаць, як і яго вершы. І гэтак жа радасна.

І міжволі звяртаешся ў думках да тых чытачоў, якія, жывучы ў Беларусі, ні разу не спахапіліся і не перайшлі на чытанне беларускай паэзіі і прозы, беларускіх паэтычных перастварэнняў з іншых моў, беларускай эсэістыкі, і вось такіх беларускіх "запісаў"... Ну, але гэтым яны і пакараны, бо гэта іх вялікая-вялікая страта.

2002, жнівень.

сваю гісторыю жыла і асабліва цяпер жыве — родная для не так ужо — як гэта ні горка! — многіх апошнім часам чытачоў...

Тут не месца даваць нейкі доказны аналіз усяго таго, што зроблена ў нашай прозе Пташнікавым. Пра гэта найбольш і найлепш сказана Серафімам Андраюком у яго кнізе "Чалавек на зямлі" (1988). Многа харошага і доказнага можна знайсці ў В. Бечыка, Р. Бярозкіна, Г. Далідовіча, В. Каваленкі, С. Лаўшука, Я. Лецкі, М. Лужаніна, В. Палтаран, І. Чыгрына, А. Яскевіча...

Даць нейкі "свежы" доказны аналіз творам пісьменніка такога маштабу як І. Пташнікаў у межах такога аб'ёму, які мне была вымушана заказаць рэдакцыя, нерэальна, немажліва. Ужо лепш напомніць нашаму, адданаму ўсяму свайму роднаму, чытачу, як ацэньвалі творчасць выдатнага нашага празаіка людзі такога маштабу як Максім Танк: "...Аповесць І. Пташнікава напісана рукой сталага мастака-рэаліста, знешне быццам стрыманага, яна хвалюе яркасцю бачання, выразнасцю дэталей, мужнай праўдзівасцю, жывымі вобразамі людзей. "Тартак" — яшчэ адна вельмі праўдзівая старонка ў ваенным летапісе нашага народа" ("ЛіМ", 30.IV.1971).

Што гэта сапраўды так, пераканаешся, адкрыўшы любую старонку іншай кнігі сапраўднага Майстра: "Бурая паласа на жываце ў Сіментала рап-там паднялася ўгару, раз, другі, і задрыжалі дробненька задні ногі. Пасля яго ўсяго закалацціла, аж падкідаючы з зямлі; кранулася караткаватае вуха, натапырылася, стаўшы стоймя; міргала і міргала вока — зноў зрабілася вялікае і сіняе. Рог над галавой парнуў, разрыўшы мокрую ад малака зямлю; язык схаваўся ў рот; засаплі, зафоркалі храпы; галава павярнулася, паднялася да зямлі, апёршыся на рог, пасля апёрлася на шыркія цёмныя пысы, і Сіментал, лежачы, пачаў смактаць з зямлі белую пену, адгон з дробненькіх лужынак і свежую гразь з ускапанага рогам канюшынішча, папярхаючыся і давячыся". ("Алімпіяда", Мінск, "Мастацкая літаратура", 1985, ст. 161).

Дазволю сабе паўтарыць і сваё, надрукаванае на вокладцы кнігі І. Пташнікава "Тартак" ("Мастацкая літаратура", 1997 г.):

"І. Пташнікаў — адзін з тых нямногіх сучасных празаікаў, якім ёсць што сказаць у межах нацыянальнай класічнай традыцыі. Гэта пісьменнік глыбінна нацыянальна. А выяўляецца гэта не толькі ў мове як першаснове нацыянальнай формы ў літаратуры, але і ў самабытным нацыянальным складзе характару, у тых псіхалагічных, эмацыянальных яго нюансах, якія і ствараюць непаўторны водар нацыянальнага мастацтва".

**Генадзь ШУПЕНЬКА**



*З Міхасём Стральцовым. Фота Ул. Крука*

часлава Адамчыка — з Гродзеншчынай, Івана Чыгрынава і Аркадзя Куляшова — з краем Бесядзі. Такіх прыкладаў можна прыводзіць даволі шмат.І гэта паказвае, што ў нашай класічнай беларускай літаратуры існуе добрая трывалая традыцыя: самабытная, яркая проза грунтуецца якраз на пераасэнсаванні, узнаўленні далёкага і адначасова блізкага і дарагога сэрцу свету, жыцця сваёй малой радзімы, краю, "над якім плывуць самыя прыгожыя аблокі", які пісаў Рамэн Ралан. Аднак такая творчасць не абмежаваная тэматыка. І калі праглядаць творы Івана Пташнікава, пачынаючы ад ранніх апавяданняў, то і там ужо адчуваліся тыя першыя прыступкі да развітага ім у "Лонве", "Мсціжах" і "Алімпіядзе"... Нават водар зямлі, лесу, поля, вёскі — усё гэта мы адчуваем, усё гэта вынікае з апісання, што сінтэзуе зрокавае, слыхавое, асязальнае і абаняльнае ўспрыманне рэчаіснасці. У пісьменніка сваё, глыбокае, адметнае бачанне рэчаў і з'яў. Напрыклад, апісанне жніва ў рамане "Мсціжы" і выкліканы гэтай спрадвечнай сялянскай працай, звыклай і поўнай свайго асаблівага хараства для вяскоўца, роздум галоўнага героя твора Андрэя Вялічкі аб родных каранях, што моцна трымаюць сэрца там, дзе чалавек нарадзіўся: "*Тады ён павярочваўся да лесу і доўга глядзеў на жоўтае ад лубіну поле. Жоўта рабілася ўвачч у і знізу, з зямлі, пачынала клікаць Балюта: валіліся снапы. "Як пахне сена... І зямля..." — стукнула яму ў галаву... Захацелася махнуць рукой на ўчастак, на Унука, на ўсё на свеце, зноў вярнуцца і хадзіць кожны дзень на поле... Па пыле, на дарозе калясьмі траве, па калючым іржышчы, па чэрствым камені...*"

Усе знаёмыя, усе родныя пахі зямлі згадвае Іван Пташнікаў, заваражвае іх непаўторнасцю, сялянскай спрадвечнасцю. Увогуле, глыбінная нацыянальная плынь вельмі моцная ў творчасці Івана Пташнікава, яе вызначае каларыт і самабытнасць мастацкага слова, вобразная сістэма і псіхалагічны пейзаж. Пачынаючы з апавяданняў зборніка "Сцяпан Жыхар са Сцешыц", пейзаж робіцца ў Івана Пташнікава адлюстраваннем пачуццяў, думак і жаданняў чалавека, стану яго душы, перададзеных у эмацыянальным пераасэнсаванні праз карціны прыроды.

Увогуле, творчасць гэтага пісьменніка, хоць і цесна звязана з агульнымі тэндэнцыямі "вясковай" плыні ў літаратуры, дарэчы, даволі моцнай у мастацкім плане, вылучаецца, аднак, сваімі асаблівасцямі: унутранай аналітыкай, схільнасцю да дэталёвага раскрыцця жыццёвых абставін, скрупулёзным даследаваннем штодзённых праяў жыцця чалавека, яго ўзаемаадносін з іншымі. Глабальнасць "вечных" пытанняў жыцця пісьменнік не імкнецца вырашаць на шырокапанарамным матэрыяле. Ён узважвае іх глыбіню і значнасць на лёсах "маленькіх" герояў свайго мастацкага мікрасвету, выходзячы пасля да шырокіх абагульненняў. Сёння ў пошуках творчай індывідуальнасці некаторыя імкнуцца да навізны ў стылістыцы, эксперыменту са словам. Аднак простая гульня ў словы часта становіцца безаблічнай. Не атрымліваецца адметнай карціны, не ствараецца свой мастацкі свет. Армянскі пісьменнік Дэрэнік Дэмірчан заўважыў: "У кожным чалавеку схавана дастаткова свайго матэрыялу. Таму неабходна яго выявіць, неабходна гэты матэрыял апрацаваць, а не карыстацца тым, што падрыхтавана другімі... Сваё, няхай маленькае, але сваё — вось што мае большы вынік, з'яўляецца цікавым для чытача."

Творчасць Івана Пташнікава — гэта не толькі ўзор самабытнай арыгінальнай літаратуры, але і мастацкі прыклад пачынаючым літаратарам.

**Маргарыта ПРОХАР**

**ДРУК**

# БАЛЮЧАЯ ПАМЯЦЬ




У гісторыі кожнай краіны часам адбываюцца такія падзеі, што іхні маштаб і наступствы вельмі цяжка вызначыць нават цягам некалькіх пакаленняў. Вынік такіх падзеяў бывае настолькі кардынальным, што цалкам змяняе аблічча краіны ці надае ёй новыя рысы альбо забірае тое, што падавалася арганічнай і неад'емнай яе часткай, і ўжо апасля падобнай падзеі нічога не можа быць па-ранейшаму. Так, напрыклад, пасля веснавога палу на гонях ізноў зеляннее трава і квітнеюць кветкі, але нейкая расліна можа знікнуць назаўсёды. Такой грандыёзнай падзеяй у жыцці нашай краіны стала другая сусветная вайна. І як сімвалам велізарных стратаў, якія перацярпеў наш народ стала невялікая вёсачка Хатынь, то сімвалам гібелі беларускіх яўрэяў стала Мінскае гета. Пасля вайны пра яго не тое, каб маўчалі, але асабліва і не гаварылі. Кніжка Гірша Смоляра "Мстители гетто", якая выйшла ў Маскве ў 1947 годзе была падвергнутая вельмі жорсткай цэнзуры, ды і не пра ўсё ў тыя часы можна было гаварыць шчыра, а таму сваю кнігу "Менскае гета", што выйшла ў 1989 годзе ў Нью-Йорку Гірш Смоляр у прадмове назваў "другой спробай". Па-беларуску яна пабачыла свет у 2002 годзе ў выдавецтве "Тэхналогія" ў перакладзе Міколы Гілевіча.

Гэтая кніга не ёсць нейкім падборам дакументаў і лічбаў, тут аўтар праз свой уласны вопыт выкладае гісторыю заснавання, жыцця і гібелі Мінскага гета, што сталася пеклам і магілаю амаль для ста тысячаў яўрэяў. Але перад намі разгортваецца не толькі гісторыя смерці, перад намі – кніга жыцця і супраціву, кніга барацьбы за абражаную чалавечую годнасць. Бо чалавек толькі тады мае права на сваё назвіска, калі змагаецца не толькі за сваё выжыванне і за выжыванне сваіх крэўных, але і за годнае стаўленне да сябе, да сваёй асобы, за права на свой духоўны свет.

Перад героем гэтай аўтабіяграфічнай кнігі, як і перад шматлікімі насельнікамі гета амаль адразу паўстала пытанне: "што рабіць?" Рэч у тым, што тады толькі адзінкі разумелі сапраўдныя наступствы гітлераўскай акупацыі, большасць жа людзей была атручаная і заспакоена савецкай, даваеннай прапагандай. І тыя, хто гэта разумеў адразу абралі шлях змагання. Яны сталі распаўсюджваць лозунг: "Гета азначае смерць. З гета – на волю. "І такім чынам адразу з узнікненнем гета, адразу з пачаткам наладжвання ў ім жыцця, калі тамтэйшыя варункі можна было назваць жыццём, пачаў расці супраціў. Людзі смелыя сэрцам і прадбачлівыя розумам спачатку наладзілі распаўсюд інфармацыі савецкага радыё аб рэальным становішчы на франтах і пачалі ствараць першыя падпольныя групоўкі, якія ў насельнікаў гета атрымалі назоў "Камітэт". Паступова гэтыя групоўкі аб'ядналіся і выйшлі на сувязь з гарадскім падполлем, якое змагло наладзіць надзвычай эфектыўную працу ва ўмовах акупацыйнага рэжыму. І з цягам часу ў гета ўзнікла двухуладдзе: з аднаго боку гэта былі прызначаны гітлераўцамі *юдэнрат*, а з другога — аб'яднаныя падпольныя групоўкі, колькасць якіх толькі ўзрастала пасля кожнай акцыі карнікаў. Ціск нараджаў супрацьдзеянне і з кожным днём мацнела падполле. За сваю кароткую гісторыю ад 20 ліпеня 1941 года да 21 кастрычніка 1943 года гета зведала, і сваіх герояў, і сваіх пакутнікаў, і сваіх здраднікаў; знаходзіліся, на жаль, і такія, хто за больш сытную пайку і за магчымасць хоць якой улады былі гатовыя дапамагаць знішчэнню суродзічаў, але іх не абмінула заслужаная кара. Мела на сваім рахунку гетаўскае падполле і нямала ўдалых акцыяў героямі якіх былі Нотке Вотнгаўз, Маша Брускіна, Якаў Кіркаешта і шмат іншых.

Бывалі ў падполля свае паразы і правалы, але натуральна, што эфектыўная барацьба была б немагчымаю без дапамогі беларускага боку, як немагчыма было б і ўратаванне тысяч і тысяч вязняў гета, асабліва дзяцей, якім рызыкуючы жыццямі, давалі прытулак і дзяліліся апошнім тысячы беларускіх сем'яў. Сярод такіх людзей аўтар асабліва адзначае Марыю Ясінскую, пра зычлівасць якой змаглі пераканацца сотні людзей. Але якімі б вялікімі ні былі поспехі падпольшчыкаў, яны, зразумела, не маглі выправіць агульнага становішча ў гета, не маглі спыніць крывавыя *зачысткі* з боку захопнікаў, якія ў сваіх вар'яцкіх планах даўно вырашылі лёс беларускіх яўрэяў. І над самімі падпольшчыкамі ўжо напагатоў была зачынілася гестапаўская пастка, а таму ў жніўні 1942 года кіраўніцтва падполля і аўтар, гэтае кнігі пакінулі гета, каб працягваць барацьбу ўжо ў складзе партызанскіх фармаванняў. Самое ж гета працягвала сваё цяжкае існаванне яшчэ больш за год, калі апасля шматлікіх крывавых *гекатомбаў*, сярод якіх былі і чатырохдзённая разня, і вынішчэнне гамбургскіх яўрэяў, і "проста" шматлікія штодзённыя забойствы, гета было канчаткова знішчана 21 кастрычніка 1943 года пасля Варшаўскага паўстання. Сам аўтар і ў партызанскім асяродку, і пасля вайны не раз сутыкаўся з праявамі антысемітызму, і хоць яны былі не такімі жорсткімі ў параўнанні з гітлераўскім генацыдам, але ўсё ж балюча ранілі свядомасць. За гады фашысцкай акупацыі былі знішчаны незлічоныя тысячы беларускіх яўрэяў, і гэта цалкам змяніла этнічную карту нашай краіны, бо зніклі яўрэйскія мястэчкі са сваёй унікальнай, самабытнай культурай, што ўтварылася ў выніку сумеснага пражывання.

Калі пасля палу ізноў адджываюць гоні сваім хараством кветак і красак, то сярод іх адна знікае і хутчэй за ўсё – незваротна. Хоць воку можа быць цяжка, адразу заўважыць страту. І толькі апасля, зусім апасля, недахоп становіцца відавочным: вясёлка без аднаго з колераў ці будзе вясёлкай?..

**Сяргей ВЕРАЦІЛА**

## "Беларуская думка", № 8

Адкрываецца нумар нарысам М. Шэлехава "Кветкі Александрыі", у якім расказваецца пра "малую радзіму" Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі, людзей, з якімі ён кантактаваў падчас сваёй вучобы ў школе. Змешчаны вершы С. Панізніка і апавяданне У. Шымава "Я — царква без крыжоў". Маладога аўтара, які вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, спецыяльнасць англійская мова і літаратура, прадстаўляе А. Марціновіч. Штрыхі да творчага партрэта А. Аўруціна "Но дышать, так хочется дышать по другую сторону дыханья..." прапануе В. Палкаліна. Пра творчасць мастака-графіка В. Славука разважае Э. Скобелеў ("Свет мудрасці і спачування"). Роль тэатра і станаўленне падрастаючай асобы — такі падзагаловак артыкула прарэктара Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, кандыдата мастацтвазнаўства Р. Бузука. А. Лукашэвіч, кідаючы позірк у мінулыя часы, выступае з артыкулам "Беларускія губернатары: адкуль яны?".

**Лім-часапіс**

# ПАЭЗІЯ, ЯК ЛЮБОЎ

Ёсць паэты і пісьменнікі, літаратурныя тэксты якіх чытаеш толькі пры адпаведным настроі душы, як бы "дыхаючы" ва унісон іх творчасці... Праўда, падобнае азарэнне здараецца не так часта, каб пра тое гаварыць абагулена, бо і сама літаратура, як адзін з відаў мастацтва — хай сабе й на ўзроўні любові ці толькі часовага захаплення — справа абсалютна індывідуальная.

А таленавіты чытач ёсць адмысловым сатворцам паэта, яго прыхільнікамі апанентам у адной асобе, і менавіта ён з'яўляецца самым аб'ектыўным крытыкам.

Як чалавек нейкім чынам наблізаны да такой чытацкай касты, лічу, што Іван Лагвіновіч — адзін з нашых непапраўных паэтаў: так я называю тых, хто піша, пачынаючы з пялюшак, да самага савана. Што ж, відаць, ёсць пэўная логіка ў тым, што паэтам памірае толькі той, хто ім нараджаецца...

"Чытаць навучыўся ў пяцігадовым узросце. У трэцім класе зрабіў першую спробу напісаць верш. /.../ У 1990-м выйшаў на пенсію. /.../ Сааўтар калектыўных зборнікаў: "Дорогие мои однополчане", "Зарницы", "Очень вовремя мы родились", "Агледзіны", "Дзядзінец"... У 2000-м выдаў кніжку "Разлукі выраёвыя" — гэтак піша І.Лагвіновіч пра сябе ў прадмове да новага свайго паэтычнага зборніка "Піліпаўка", што зусім нядаўна пабачыў свет пры баранавіцкім "Творчым згуртаванні "Святліца".

Сёння паэту 62 гады, адну палову з якіх ён правёў у цёмных штольнях Данбаса, а другую — у творчым паўзмроку савецкай малагабарытнай кватэры...

Настальгія па Айчыне сталася для яго неадольнай пакутай. Прыцягвала рамантычнае святло яе маладой, няведама кім расклізанай, незалежнасці ды шчарбаты ганак незабыўнага і па-свойму шчаслівага паваеннага дзяцінства... Але не паспеў наш суверэнны Янка адсапціся з дарогі, як святло згасла і тут...

О, гэты спрадвечны беларускі вырак, што робіць з нас свядомых духоўных ізгояў пасярод аблогаў роднай Айчыны!.. Таму, зацяўшыся ў самай глыбіні свайго непакорнага сэрца, мы робімся заклятымі барацьбітамі за сваю чалавечую самасць наперакор усяму беламу свету...

Менавіта адтуль — з сэрца, загартаванага на пякельным агні спрадвечнай любові — нашы бацькі і маці, Прарокі і Паэты, геніі і графаманы, аратыя і цаpазабойцы, вынаходнікі і валацугі, мецэнаты і жабракі, на якіх, трымаецца наша нацыянальная неўміручасць...

*Трубадуры, дзьміце ў трубы,*
*марш Свабоды выдзімайце!*
*Цішыня пакоры — згуба.*
*Памятайце: вы — на варце!*

Так паэтычна абмалёўвае Іван Лагвіновіч свае сённяшнія набалелыя пачуцці, вызначаючы арыенціры крэўнага айчыннага шляху. У зборніку дастаткова яркіх і адметных па мастацкіх якасцях вершаў, а некалькі з іх, на маю думку, і ўвогуле могуць быць залічанымі ў хрэстаматыйную скарбонку беларускай паэзіі ("На Дзяды", "Трыадзінства", "Чытаючы эпіфаніі Іманта Зіедоніса").

Удалыя спробы вершаваных перастварэнняў вядомых евангельскіх матываў ("Ян Прадвеснік" і "Нагорная пропаведзь Ісуса Хрыста"). Агулам у зборніку ёсць на чым запыніцца, як крытычнаму воку, так і чытацкай душы. Іван Лагвіновіч — паэт сталы, але не стары, няглядзячы на свой паважаны чалавечы ўзрост. Дарэчы, празмерная шчырасць і бязмежны дзіцячы наіў падчас зводзяць яго літаратурны вопыт да той праставатасці, за якой пачынаецца ні што іншае як надзённая бытавая проза... Аднак у адрозненне ад многіх нашых абачлівых паэтаў, у Івана Лагвіновіча наперадзе свой — цаліны — шлях да вяршыні Парнаса, дзе кожны новы верш, як чарговая прыступка...

І, дзякаваць Богу, паэт гэта добра разумее:

*Нямала мне такіх*
*прыступак трэба ўзвесці,*
*каб апынуцца ў храме*
*прыгожага пісьменства*
*між выбітных майстроў*
*дасведчаным паэтам*
*і надпіс, хоць на браме,*
*пакінуць для нашчадкаў:*
*"І я спазнаў любоў."*

Прызнаюся як на духу, што прачытаўшы апошні радок, я доўга нэндзіўся недаступнай думкай: а якія ж словы напісаў бы я ў гэтым выпадку? І чаму не напісаў падобных? І ўвогуле, ці спазнаў я Паэзію, як Любоў?

...нават за адзін толькі гэты одум — паклон Паэту.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**ПАЭЗІЯ**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**



# САД

1

*Я прыйшла ў гэты сад — бы ў свет*
*Немаўля — праз боль і пакуты.*
*Так да прозы ідзе паэт,*
*А мысляр — да сваёй цыкуты.*
*Я прыйшла ў гэты сад — таму,*
*Што дарогі ў кропку сышліся,*
*І не ўпасці ў ногі таму,*
*Хто ні разу мне не з'явіўся.*
*Я прыйшла ў гэты сад — не быць,*
*А забыцца, як лёс ірвецца,*
*І разблытаць срэбную ніць,*
*На якой падвешана сэрца.*
*Ад спрадвечнай нашай журбы*
*Па нязбытным — сысці, схавацца...*
*Я прыйшла ў гэты сад — нібы*
*На радзіму вярнуўся здрайца.*

2

*Самотны сад!*
*Хіба самотным сад бывае?*
*Біблейскай горыччу напоена лістота.*
*Тут цень — карункавы, і цішыня — жывая,*
*Нібы анёл сыходзіць па зялёных сходах.*
*Плыве каўчэг пад чарапічным вострым дахам,*
*У моры кветак патанае сэнс пакуты.*
*І таньчаць кветкі, быццам Гоеўскія махі,*
*Нібы пялёсткі іх калісь не стануць брудам.*
*Тут растаюць мядовай кропляй забабоны,*
*Тут чысціня сваёй абранасці баіцца.*
*Святы Францыск з ружовай хмаркі, бы з амбону,*
*Гаворыць з ластаўкай, малой сваёй сястрыцай.*
*Самотны сад!*
*Адкуль твая жывая горыч?*
*Чаму вада твая адно абвострыць смагу,*
*Тугу па садзе тым, дзе нас любоў агорне,*
*Тугу па тых краях,*
*дзе кветкі шчасцем пахнуць?*

3

*Мы будуем сабе не дамы — астравы.*
*Вып'е сад твой цябе — бо твой прыгажосцю*
*Ён квітнее, пакуль маладыі жывы.*
*Гэтак пышна буяе трава на пагосце.*
*Мы пагост прыўкрашаем...*
*А думаем — дом.*
*І крывавая лінія крывіцца ў шыбах,*
*І ляцяць аскалёпкі, і сад быльнягом*
*Зарастае,*
*і мерзнуць буслянкі на ліпах.*
*Мы будуем сабе не дамы — астравы*
*У спадзеве таемным застацца наверсе,*
*Над сабой, над зялёным патопам травы,*
*Недасяжныя ў брыдкай зямной куламесе.*
*Ды сцяжынкі сплятаюцца, быццам кубло*
*Засынаючых гадаў, гадоў жураўліных.*
*І ў пагост ператворыцца наша жытло,*
*І садоўнік абрэжа сухія галіны.*

4

*Кола пракоціцца сцежкамі сада твайго,*
*Па маргарытках —слядах Прыснадзевы Марыі.*
*Вогненная калясніца. У садзе — агонь.*
*Кветкі — навошта, калі твае сэрца спалілі.*
*Госць не заўважыць пяшчотны пялёсткавы дождж,*
*Не пераступіць жука, што паўзе па сцяжынцы.*
*Пройдзе праз сад —*
*як праз яблык навостраны нож.*
*І распадзецца Сусвет твой на дзве палавіны.*
*Князь не павінен ніколі вяртацца дамоў —*
*Сад, што жанчына ўзрасціла, занадта пяшчотны.*
*...І выцякае з суніцаў салодкая кроў,*
*Круцяцца колы, нібыта пякельныя жорны.*

5

*Сястра! Як гэта ўсё несправядліва.*
*Не помніць кветка аб памерлым зерні.*
*Сыходзіць князь, абразліва шчаслівы,*
*У той палац, дзе не сады, а сцены.*
*Што ім, сур'ёзным, самавітым воям,*
*Да маргарытак, хмарак і пакутаў.*
*Сад аніхто не забярэ з сабою,*
*Лацвей — куфэрак, золатам абкуты.*
*Сцякаюць рэкі з цёмных плеч Атласа,*
*Тытана, што сцярог сады багіняў,*
*Ды не ўсцярог...*
*Садоў любых акраса*
*Не для таго, хто дзеля іх загіне.*
*Сады расцяць не для сябе... Ніколі*
*Не адгадаць, хто стопча тваю квецень.*
*І ломіцца галінка з крыкам болю,*
*Над ёй смяецца пераможны вецер.*

6

*Чужыя дамы...*
*Як абрыдлі чужыя дамы.*
*Па іх нажабруеш наўрад цеплыні і любові.*
*І звязвае ў роце, як прысмак няспелай хурмы,*
*Ад слова любові, прыветна-адчэпнага слова.*
*На ўскрайку чужога гнязда немагчыма любіць.*
*І ў дом ператворыцца сад, і мяне абароніць*
*Ад злых карагодаў, і ад залатых калясніц,*
*Ад усведамлення, што лёс мой — стаяць на пероне,*
*І быццам чакаць... А каго?*
*Уратуй мяне, сад!*
*Я ружу вятроў з твайго сэрца з карэннямі вырву.*
*Ты — дом мой... Ты — свет мой...*
*Засцелецца твой лістапад*
*Кілімам — па сцежцы маёй у завоблачны вырай.*

7

*На хвалях лазуркавых бэзу, над белымі зоркамі глогу*
*Гайдаецца чоўнік малітвы — вось-вось адляціць за аблокі.*
*Між кветкаю кожнай і небам тут ёсць ланцужок непарушны.*
*А я — ці патрэбная ў гэтым сумо'ўі сукveцацца ў душаў?*
*Так Сын Чалавечы маліўся ў начы Гефсіманскага саду,*
*І поўня здавалася ў небе чырвонай, як кветка гранату.*
*А людзі нічога не чулі, як зараз не чуюць нічога,*
*Ні ўласнага сэрца, ні болю чужога, ні кветак, ні Бога.*
*І я ў гэтым садзе — як птушка, што вырасла ў цеснае клетцы,*
*Навошта мне дадзены крылы, навошта пакутуе сэрца?*
*І з чоўнікам кволым малітвы спрабую ўзляцець над сабою...*
*І з кветкамі ўверх узлятаю, і падаю ўніз з лістабоем.*

8

*Змяя заўсёды марыць аб кароне.*
*А кветка проста аддае пялёсткі*
*За свой працяг, за маладыя гронкі,*
*І век яе — бясконцы і кароткі.*
*Змяя ўспаўзае на алтар каменны,*
*І грэецца ў святле Царыцы Ночы.*
*І лес вакол яе ўздымае сцены —*
*Карона без палацу быць не хоча.*
*А сад сваіх былых не помніць кветак.*
*Ён — храм, які яны сабой будуюць.*
*Безабаронны, вечны, ціхі, светлы —*
*Адзіны храм, які мяне ўратуе.*
*Блішчыць карона ў белых промнях поўні.*
*Начныя кветкі раскрываюць сэрцы.*
*Я не хачу — цяжкі абруч на скроні.*
*Я ў сад іду, каб з кветкамі сустрэцца,*
*Каб знішчыць боязь зніккнуць назаўсёды,*
*Не зажадаць скрываўленых скрыжаляў...*
*А на алтар змяіны носяць соты*
*І цягнуцца далонямі да джала.*

9

*Сад камянёў і сад шыпшыны...*
*Далёкія, як дзве краіны,*
*Бясконцыя, нібы вар'яцтва.*
*Што можа сэрца? Разарвацца*
*Між імі, прымірыць не ў змозе*
*Іх моц — нібыта верш у прозе.*
*Дзве ісціны... Дзве формы снення...*
*Мой сад — і кветкі, і камені.*

*2002*

* * *

***Міхасю Скоблу***

*Мы ведалі, што да вясны — далёка,*
*Што цяжка жыць на гэтае зямлі,*
*Дзе камянёў — на кожнага прарока.*
*Мы ведалі... І ўсё-ткі — тут жылі,*
*Тутэйшыя, рамантыкі, паэты...*
*Між верасовых пустак і балот,*
*Дзе паляванне дзікае па следзе*
*Усё імчыць і трушчыць тонкі лёд.*
*Мы ведалі, што нашая шыпшына —*
*Не цвет чырвоны, а крывавы след,*
*І з пушчы нават сцежкаю звярынай*
*Не выйдзе больш ніякі інсургент.*
*Чароўнай Панны з'ехала карэта.*
*Ды колы шлях пакінулі ў траве.*
*Мы гэткія ж — рамантыкі, паэты,*
*Тутэйшыя.*
*І Беларусь — жыве.*

# ШЛЯХ ДА ЭДЭМА

*Ад Ільвіных варот засталіся адны камяні.*
*На разбураных вежах запальвае золак агні.*
*На памерлае царства ўспаўзае пустэльны пясок.*
*Ды чарговы вандроўнік не сцішвае стомлены крок.*
*Праз вароты Ільвіныя, кажуць паданні, ідзе*
*Запаветная сцежка ў забраны зялёны Эдэм.*
*Царства мёртвых схавае старанна сухія сляды.*
*Праз яго аніхто не дайшоў да жывое вады.*
*Бо ніхто не паверыў, што ў неба працягнуты шлях.*
*І чарговы вандроўнік з малітвай на чорных губах*
*Крочыць сцежкай памерлых між пашчаў каменных ільвоў,*
*І на прывідных вежах агні загараюцца зноў.*

# ПАЛАЦ

*Перліны рассыпаны мае*
*Па каменных плітах у палацы.*
*Цэні тут шапочуць, як аер.*
*Ад улады ценяў не схавацца.*
*У палацы таямніц няма,*
*Хоць хавае кожны — таямніцу.*
*І блукаюць Дама і Манах*
*Па аркадах гэтай камяніцы.*
*У палацы нельга пакахаць,*
*Золата блішчыць ярчэй, чым вочы.*
*Перліны ў каралі не знізаць,*
*І не пераняць навукі воўчай.*
*Тут — чужой — правесці век зямны,*
*З месяцам гаворачы начамі,*
*З цяжарам пакутлівай віны*
*Ад зламаных крылаў за плячамі.*

# ПАЭЗІЯ

1

*Прыходзіць. Адбірае немату.*
*Нібыта словы маюць сэнс у свеце,*
*Дзе іх ільюць, нібы ў пясок ваду,*
*Дзе попел іх разносіць горкі вецер.*
*Не хлеб яна. І нават не віно.*
*Не яблык, што пазбавіў нас Эдэма.*
*Яна — нібы ў сцяне глухой акно,*
*Трымценне зор і гук вады падземнай —*
*Не скарыстаць у побыце.*
*Не стаць*
*Яе гаспадаром. Не перайначыць.*
*Яна зруйнуе слоў тваіх палац,*
*Калі свайго адбітку там не ўбачыць.*
*Парве душу... Прымусіць блазнам быць.*
*А ты ж — герой! Ты марыў пра палёты!*
*А не прыходзіць — і навошта жыць,*
*І будаваць свае пустыя соты?*

2

*Не ілгаць у вершах немагчыма,*
*Бо — мана, што імі зменіш свет.*
*Толькі гэта ўсё-ткі не прычына,*
*Каб дачасна замаўчаў паэт.*
*Вершы хлусяць, а яшчэ — і раняць,*
*Па пялёстку скубучы з душы.*

*Распрануць прылюдна, зганьбяць*
*памяць...*
*Не пішы, мой браце, не пішы...*
*Ты не крыж — а подыум*
*майструеш,*
*На якім ты — блазан, не герой.*
*І глядач адданы не даруе,*
*Што тваёй захоплены ігрой.*
*Там, унізе, дзеляцца і дзеляць,*
*На ўзвышэнні вершаў —*
*толькі боль.*
*Ты маўчыш, мой брат... Нібы пацэліў*
*Зноў у верш твой малады кароль.*
*Словы тыя, што ў сабе зняволіў,*
*Не памруць — а спапяляць знутры.*
*Вершаў не даруюць нам ніколі.*
*Вершы не даруюць нам ніколі.*
*Замаўчы, паэт... Або згары.*

2

*Прадавайся хутчэй, мастак.*
*Тут ніхто цябе не ўратуе.*
*У мастацтве заўсёды так —*
*Хто — красуецца, хто — красуе.*

3

*Словы не жадаюць паміраць,*
*Як ні забіваю іх бязмоўем.*
*Нада мной, нібы пачвары Гоі,*
*Непрамоўленыя сны гараць.*
*Немагчыма змусіць знікнуць іх,*
*Душы вершаў, мной ненапісаных.*
*Я шукаю толькі безаганных —*
*Ды ніяк не адшукаць такіх.*
*І таму — нямею... І жыву*
*Пад сваёй раскрыжаванай мараю.*
*І лятуць на мой агонь пачвары,*
*І хілю да сшытка галаву.*

4

*Падаюць зоры, нібы паміраюць анёлы.*
*Сцежкамі смерці бліскучай закрэслена*
*вечнасць.*
*Ды нараджаюцца зоры — ўсё болей*
*і болей,*
*Дзівіцца светлы анёл мітусні*
*чалавечай.*
*Мой зарапад не адменіць працягу*
*Сусвету.*
*Восень мая ні адцення ў вясны*
*не адніме.*
*Сцежкай бліскучай у цемру сыходзяць*
*паэты.*
*Ды не сыходзяць анёлы і вершы за імі.*

* * *

*Жыццё ёсць сон... І я магу прачнуцца.*
*Але ці ява там, ці новы сон?*
*Лісты да Бога скурчваюцца ў грубцы,*
*І грэе рукі ля яе Харон.*
*Паэт каменны — на халодным пляцы.*
*Паэт жывы — ён дзе? Шукай, гукай...*
*І Свіслач хвалі, як каменні, каціць,*
*І край маўчыць, як высечаны гай.*
*Жыццё ёсць сон... Не можа быць,*
*каб явай*
*Быў горад, шэры, быццам прасціна,*
*І лесвіцы, што ўзводзяцца да славы*
*З прыступак слоў, на рошчыне віна.*
*Блукае вершнік, скінуты з памосту —*
*Не бранзавее прывідная кроў.*
*І душы, як пакінутыя гнёзды,*
*Забыліся пра белых галубоў.*
*Жыццё ёсць сон... Амаль што*
*немагчымы,*
*Дзе ў роднасці — калыска і труна.*
*Ды ў гэтым сне яшчэ жывое Айчына.*
*А ява наша — там, дзе ёсць Яна.*

* * *

*Выюць ваўкі на айчыннай дашчанае*
*сцэне.*
*Таньчаць русалкі ў даўгіх палатняных*
*кашулях.*
*Кружаць вяночкі над імі бязладна*
*і лена.*
*А гледачы пад купальскую песню*
*паснулі.*
*Выюць ваўкі,*
*і крывавіць кардонная поўня,*
*Быццам бы вока падбітага куляю звера.*
*Таньчаць русалкі,*
*іх песня над горадам сонным*
*Ціха лунае, як змей з аксамітнай*
*паперы.*
*Свіслач выплёўвае чорныя воды Нямігі*
*Проста на бераг, дзе след*
*візантыйскага храма.*
*Спіць Беларусь,*
*і чакае чарговай адлігі.*
*Кветка купальская —*
*за Кальварыйскаю брамай.*

## ПРОЗА

**Алесь КАЖАДУБ**

# СВЯТА

## Апавяданне

З юбілею я вяртаўся пад раніцу. На рагу вуліцы адпусціў машыну, якую даў мне банкір-юбіляр, на ўрачыстасць да якога я трапіў выпадкова, і накіраваўся да свайго дома.

— Дарагі, — раптам пачуў я, — чаму ў госці не заходзіш?

Сапраўды, што гэта я пруся па вуліцы, нягледзячы па баках? Вось яны, агні забягалаўкі, зззяюць, як на Манхэтэне. Ці сёння на Манхэтэне нічога не зззяе? Але думаць пра гэта не выпадала. Мяне запрашалі, як я здагадаўся, да стала, і грэбаваць гэтым запрашэннем не варта. Нават пасля банкірскага стала.

Я падышоў да палаткі, агледзеў кумпанію, што сядзела на скрынях з-пад піва, ацаніў. Сядзелі яны, трэба сказаць, добра: віскі, шампанскае, "Мартэль" энд "Хэнэсі", на падносах гуры вінаграду і персікаў, на асобным століку бастурма.

— Гуляем, нецывілізаваныя народы? — сказаў я, спрабуючы прачытаць назву віскі на этыкетцы. — Нядобра, шаноўныя!

— Ур-ра!.. — зараўлі застольнікі. — Трымай шклянку — віп'ем!

— За гэта піць я з вамі не буду, — цвёрда адвёў я чыюсьці руку з шклянкаю. — Пасяджу, але без выпіўкі.

Сядай, усё роўна мі знаем — ты харошы чалавек.

Мне падсунулі скрыню з-пад піва, я сеў.

Гэтую палатку трымалі ці то азербайджанцы, ці то чачэнцы. Зрэдку, вяртаючыся позним вечарам, я завітваў да іх падлакіравацца піўком. Гаспадар, імя якога я не ведаў, чамусьці лічыў неабходным пачаставаць мяне за свой кошт, і мы гаварылі на свецкія тэмы — хто лепшы: "Анжы" ці "Аланія"? Калі канчаткова ўпадзе рубель? Аднойчы доўга абмяркоўвалі, як правільна рэзаць барашка. Гаспадару, відаць, падабалася, што я слухаў яго не перабіваючы.

Але сёння быў асаблівы выпадак.

— За што вы іх узарвалі? — строга спытаўся я, агледаючы ўсіх па чарзе.

— Амерыка думаў — ён цар, а цяпер усе бачаць, што ён з голым ж...ам! — эмацыянальна раслумачыў мне самы малодшы ў кампаніі, мусіць, сваяк гаспадара.

Маўчы! — цыкнуў на яго гаспадар. — Хто табе слова даў?

Я кіўнуў галавой: перш чым адкрываць рот, трэба навучыцца гаварыць.

— Саслан, скажы ты! — загадаў гаспадар.

Саслан устаў, урачыста ўзняў шклянку на ўзровень вачэй.

— Я віпіць гэта віно за перамогу бедных над багатымі. Слава Алаху!

Усе, акрамя мяне, падняліся і зрабілі па глытку з сваіх шклянак.

— Ну, самы бедны тутя, бо славянін, — сказаў я. — Але я яшчэ нікога не перамог. І наўрад ці перамагу. Пераможу.

"Цікава, хто тут больш п'яны — я ці яны?" — падумаў я.

— Аслан, цяпер ты! — хітнуў галавой гаспадар.

Аслан падняўся — ён быў тут самы малы — і выгукнуў:

— Мі ім паказаў куз-кін мат!

Усе зарагаталі. Аслан, здаецца, быў тут за дасціпніка.

Я, канечне, быў нападпітку, але не настолькі, каб не разумець рускую мову, хай і ў выкананні нярускага чалавека.

— Кузкін — гэта кузькіна? — спытаў я. — А мат — гэта маці?

Яны зарагаталі яшчэ мацней.

— Але ж там загінулі бязвінныя людзі, — уздыхнуў я. — Шматбязвінных людзей!

— Адна вежа дваццацьпяцьтысяч, — нахіліўся да мяне гаспадар, — і другая дваццаць пяць тысяч. Пяцьдзесят!

Кампанія выбухнула воплескамі, быццам "Аланія" забіла гол "Анжы". Ці наадварот.

"Дзікуны, — з сумам падумаў я. — Не ведаюць, што твораць. Ці ўсё ж ведаюць?"

— Вось пачнецца вайна, — паглядзеў я на гаспадара, — і хто ад гэтага выйграе?

— А мі не баяцца! — улез у нашу гаворку малодшы сваяк.

Да палаткі пад'ехала патрульная машына міліцыі і спынілася.

— Аслан, занясі скрыні! — загадаў гаспадар.

Аслан падскочыў і аднёс да машыны дзве скрыні з півам.

— Якое піва п'юць? — кіўнуў я ў бок міліцыі.

— "Клінскае", — пагардліва скрывіўся гаспадар. — Усе едуць: міліцыя, бандыты, Дума таксама едзе.

— Якая дума? — здзівіўся я.

— Думская дума, — таксама здзівіўся гаспадар. — Усе п'юць.

— Я не п'ю, — сказаў я.

— Табе хопіць, — згадзіўся ён. — Заўтра прыходзь.

— І заўтра не буду, — заўпарціўся я.

"А вось гэта дарэмна, — мільгнула ў мяне ў галаве. — Віскі мог бы не піць, а "Клінскае" разам з міліцыяй — спакойна. Не лічыцца".

"Лічыцца-лічыцца, — сказала маё другое "я", — альбо піць — альбо не піць, трэцяга не бывае".

Відаць, барацьба паміж маімі двума "я" адбілася ў мяне на тварьі, бо гаспадар дастаў са скрыні бутэльку "Баварыі", адкаркаваў яе і паставіў каля маёй нагі.

— Не хочаш — не пі, — сказаў ён. — Але скажы: хто быў у тых вежах?

— Людзі, — пацiснуў я плячыма. — Амерыканцы.

— Малайчына, — паляпаў мяне па плячы гаспадар. — Ты на працу ў колькі прыходзіш?

— У дзевяць.

— Яны таксама ў дзевяць. А твой начальнік?

— Захоча — наогул не прыйдзе.

— Зусім малайчына! — падскочыў гаспадар. — Іхні начальнік таксама яшчэ не прыйшоў. Спецыяльна так зрабіў.

— Ну ты сказаў! — пакруціў я пальцам каля скроні. — Можа, гэта яны сабе самі падстроілі?

— Канечне! — устаў Аслан. — Ім вайна трэба, ён тэракт дзелаў. Самі дрэнны чалавек — амерыкос.

Гаспадар асабіста наліў Аслану ў шклянку глыток віскі.

— Знаеш, чаму бедны пераможа багатага? — схіліў ён набок галаву.

— Яму няма чаго губляць, — хмыкнуў я. — Але ў багатых самалёты, ракеты, авіяносцы. І долар, які ты збіраеш.

— Я гэты долар спалю! — на момант згубіў над сабой кантроль гаспадар.

— А яны на Месяц лятаді, — зноў заўпарціўся я.

"Ну што ты спрачаешся, — сказала адно з маіх "я". — Прыб'юць — дзе будзеш піва піць?

Гаспадар доўгім позіркам паглядзеў мне ў твар — і ўсміхнуўся.

— Ты бяднейшы за Аслана. Навошта амерыканца абараняеш?

— З пачуцця справядлівасці, — падбадзёрыўся я. — Гэтак кожнага можна забіць.

— Я, каб забіць, тысячу долараў плачу, — паглядзеў у шклянку з напоем гаспадар. — Навошта гаворыш — кожнага?

Гаспадар зірнуў на яго, але нічога не сказаў.

— А як было тым, хто сядзеў у самалётах? — не супакойваўся я — Кашмар!

— Той, хто сядзеў у самалётах — герой! — гаспадар жэстам загадаў Саслану наліць у шклянкі. — Алах усіх прыняў і ўзнагародзіў.

— Як таму у вас — выдзеліў кожнаму па пяцьдзесят гурый? — пачаў успамінаць я.

— І дзесяць хопіць! — крыкнуў Аслан.

Усе зноў зарагаталі.

Я ўявіў сябе на месцы людзей, што знаходзіліся ва ўзарваных хмарачосах, і мяне скаланула. Відаць, яны да апошняга спадзяваліся на цуд — размахвалі ў вокнах белымі анучамі, лезлі на дах. Але хтосьці і сігануў уніз з сотага паверха. Прынамсі, чаму ніводзін верталётне зняў з даха людзей? У амерыканскіх фільмах, што запанілі нашыя экраны, над кожным хмарачосам вісіць па некалькі верталётаў. Вось табе і кіно. Дагуляліся, хлопцы...

"Жартуе? — пачаў я ўзважваць. — Ці не? Вельмі ўжо танна — тысяча. Хаця ў цябе і тысячы няма, калі што. А каго ты збіраешся забіць? Цешча не лічыцца, крытык Ухватаў таксама..."

Ход маіх разважанняў перарвала з'яўленне асобы ў драным камбінезоне, запэцканым белай фарбай.

— Я гэты хазяін заб'ю! — гучна сказаў чалавек, гледзячы на мяне. — Чаму кажа — фарба не той?

У тэрарыста быў відавочны малдаўскі акцэнт, і я падумаў, што яго наўрад ці пусціць за стол у дзень святкавання гістарычнае даты адзінаццатага верасня. Базукі няма ў руках. Ці хоцьбы нажа.

— Ідзі туды, — махнуў рукой гаспадар. — Не бачыш — размаўляем? Аслан, пакажы.

Аслан падскочыў, узяў тэрарыста пад руку і павёў у цемру.

— Саслан, скажы. — Гаспадар адшчыкнуў вінаградзіну і кінуў сабе ў рот.

Саслан павольна падняўся, узняў руку з шклянкаю на ўзровень вачэй:

— Усім знае — Амерыка патрэбен вайна. Навошта стольки зброі ўзяў? Ракеты, бомбы, — куды яго дзяваць? Цяпер ён скажа: цябе трэба забіць, яго трэба забіць, Хусейн, Арафат — усіх трэба забіць! Народ яму "ўра" крычыць, ён стаў герой. Ты вайна хочаш? У цябе сын, дачка — не хочаш. Усё роўна вайна. Алах усё бачыць, Алах Амерыка пакарае.



Усе, акрамя мяне, падняліся і выпілі з сваіх шклянак да дна. Я скасавурыўся на бутэльку "Баварыі", што па-сіроцку гарнулася да нагі. Супраць вайны можна б выпіць, і нават трэба было б, але за пакаранне нельга. Гэтыя пачнуць караць, тыя, а ў выніку атрымаецца як заўсёды.

— Султан, ГАІ прыехаў, водка просіць, — выйшаў з цемры Аслан.

— Дай, — распарадзіўся гаспадар.

Толькі цяпер я як след разгледзеў яго: мажны, лысы, з запатой фіксай у роце, на безыменным пальцы правай рукі пярсцёнак з вялікім каменем, пад носам тонкая ніточка вусаў. Добры, відаць, чалавек, ні патрульным не адмаўляе, ні ДАІ, прахожага чалавека прыгрэў. Сапраўдны султан. У турэцкіх султанаў, праўда, галоўнай каштоўнасцю лічыўся гарэм. У Султана гарэма я нешта не бачу. Не тое што пары-тройкі жонак і дзесятка наложніц — наогул няма асоб жаночага полу, адна "Аудзі" апошняй мадэлі.

— Дзеўка хочаш? — адгадаў ход маіх думак Султан.

— Якая дзеўка ў нашыя гады, ды яшчэ а пятай гадзіне раніцы? — усміхнуўся я. — Дамоў трэба ісці. Здавацца.

— Жонка злая? — не адставаў Султан.

— Звычайная, — пазяхнуў я. — Сёння, мусіць, усе вашыя па Маскве гуляюць, га, гаспадар?

Султан пачаў выбіраць на падносе персік. Надакучыў, відаць, я яму.

— Усе гуляюць, — вынырнуў з цемры Аслан. — Ісмаіл на рынак салют хацеў рабіць.

Гаспадар нешта сказаў яму на сваёй мове, Аслан пайшоў у палатку.

Я падняў галаву і нечакана для сябе ўбачыў зоркі. Вогненнай ракой ішоў у бясконцасць Млечны Шлях, ён жа Вялікі

(Заканчэнне на стар. 12)

## Кола не прабуксоўвае, калі яно святочнае

Ужо неаднойчы рабіліся выразныя спробы змяніць сітуацыю з айчынным турызмам, істотна павярнуўшы яго вектар у бок самой Беларусі. Эфект не заўсёды атрымліваўся значным. Новы захад зроблены досыць вядомай турыстычнай фірмай "Трэвел", супрацоўнікі якой перакананы: на Беларусі ёсць што паглядзець.

"Трэвел" (а падтрымлівае яе праект упраўленне культуры Мінскага аблвыканкама) распрацавала і рэалізоўвае праграму "Святочнае кола Беларусі", змест якой звязаны з сезонамі года і календаром народных святаў, традыцыйных абрадаў. Турыстаў (канечне, найперш гэта будзе цікава замежнікам) чакаюць не толькі сустрэчы з помнікамі дойлідства Беларусі, старадаўнімі сядзібамі, але і знаёмства з традыцыямі народа. Каляда, Грамніцы, Яблачны Спас, Багач і іншыя святы будуць наладжаныя (у залежнасці ад пары года) прама ў межах турыстычнай вандроўкі. А яшчэ гасцей чакаюць "Капусны дзень", "Цешчыны бліны", "Запрашэнне на свежыну", "Духмяная юшка"... Словам, разам сыходзяцца гісторыя, фальклорныя традыцыі і лепшыя, найсмачнейшыя беларускія стравы.

Першыя маршруты "Святочнага кола Беларусі" пралягуць па Пухавіцкім і Лагойскім раёнах.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Падказана сэрцам, напісана душою...

Ганна Атрошчанка, пісьменніца з Гомеля, наогул аўтарка пладавітая, за апошнія гады выдала не адну кніжку паэзіі і прозы: "Асеннія мары", "Споведзь душы", "Родныя мясціны", "Чырвоны Рог", "Жытнёвыя каласы". Тэматыка іх — боль Беларусі і боль за яе, трагедыя роднай вёскі Чырвоны Рог, якая знікла з карты Добрушскага раёна. Усё гэта дасціпна, пераканаўча выказана ў яркіх, як іскрынкі, абразках сельскага і гарадскога жыцця. Яны складаюць змест і апошняй кнігі Ганны Атрошчанкі "Сустрэча". Ганна здольна заўважаць характэрныя прыкметы сучаснасці ўсюды, на кожным кроку нашага нялёгкага і неспакойнага жыцця. Так, як заўважае неабыякавы да яго праяў паэт, пісьменнік, якім з'яўляецца гомельская аўтарка. У кожным яе абразку — і мараль, і псіхалогія, і філасофія, а галоўнае — жывы інтарэс да ўсяго, што адбываецца навокал; душэўны неспакой пісьменніцы, яе боль і трывога за сябе і за нашчадкаў,за сучаснасць і будучыню сваёй краіны...

**Васіль ФЕРАНЦ**

## Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры

**Аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад**

прафесара кафедры духавой музыкі

дацэнтаў кафедр:

бібліятэказнаўства, гісторыі і музеязнаўства, арганізацыі тэатральнай творчасці, народных рамёстваў, беларускай і сусветнай мастацкай культуры, інфармацыйных тэхналогій у культуры, харавога мастацтва, народна-інструментальнай творчасці.

старшых выкладчыкаў кафедр:

філасофіі, беларускай мовы і літаратуры, гісторыі і музеязнаўства, сацыялогіі і культуразнаўства, менеджменту сацыякультурнай сферы, рэжысуры свят, беларускай народна-песеннай творчасці, народна-інструментальнай творчасці.

выкладчыкаў кафедр:

сусветнай літаратуры, замежных моў, аўтаматызаваных інфармацыйна-бібліятэчных сістэм, гісторыі і музеязнаўства, народных рамёстваў, харавога мастацтва, мастацтва эстрады, харэаграфіі, духавой музыкі.

**Наш адрас: 220001, г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17. Аддзел кадраў.**



# ЧОРНЫ ТЭАТР ДЛЯ СВЕТЛЫХ ЛЮДЗЕЙ

*Сёлета адзначае сваё пятнаццацігоддзе адзін з цікавых тэатральных калектываў суседняй Польшчы. Чорны тэатр — так называецца прафесійны лялечны тэатр, у якім працуюць падлеткі невялікага горада Ломжа, што непадалёк ад Беластока. У гэтым дзіўным лялечным тэатры драматычная дзея адбываецца ў суцэльнай цемры. Дзякуючы спецыяльнаму асвятленню, чароўныя сюжэты ў выкананні дзяцей-артыстаў, цалкам апранутых у чорныя касцюмы, выклікаюць у гледачоў нечаканa моцныя эмацыянальныя ўражанні.*

Польскі Чорны тэатр працягвае традыцыі лялечнага мастацтва Балгарыі. Дакладней, ідэя Чорнага тэатра належыць заслужанаму артысту Балгарыі, рэжысёру Івану Сівінаву. На вялікі жаль, славуты на ўвесь свет майстра моцна хворы і не можа далей працаваць у поўную сілу. Яго творчыя задумы цяпер здзяйсняе са сваім калектывам Томаш Бжазінскі— акцёр, рэжысёр, выкладчык, заслужаны дзеяч мастацтваў, кавалер польскіх Залатога і Сярэбранага крыжоў. Усю цеплыню сэрца, усе свае выкладчыцкія здольнасці (Томаш Бжазінскі шмат гадоў выкладаў мастацтва трасцяных лялек і марыянетак у Беластоцкай тэатральнай акадэміі) ён аддае сваім чатырнаццаці-шаснаццацігадовым выхаванцам. Спектаклі ў яго пастаноўцы здзіўляюць палётам фантазіі, сваім філасафічным гучаннем і неардынарнымі сродкамі ўвасаблення драматургічнага матэрыялу. Сваю зацікаўленасць у працы менавіта з падлеткамі Томаш Бжазінскі тлумачыць так:

— Калі нашы дзеці будуць добрыя, будзе менш зла сярод нас. Я мяркую, што мы ўсе павінны клапаціцца пра культуру і гуманізацыю грамадства, і лепш гэта рабіць праз таленавітую моладзь.

Ужо чацвёрты год запар Томаш Бжазінскі пры фінансавай падтрымцы мясцовай улады горада Ломжа арганізуе для юных акцёраў Чорнага тэатра практычныя заняткі з майстрамі пластычнага руху, вядомымі ў тэатральнай Польшчы асобамі. Сёлета чарговыя, IV Міжнародныя warштаты Чорнага тэатра праходзілі ў мястэчку Длугаба.

З першага дня "варштатаў" дзеці трапілі ў свет цудоўнай тэатральнай гульні-навучання. На занятках вядомага тэатральнага дзеяча Саюза артыстаў сцэн польскіх Уладзіслава Аўчажэка з Торуні яны вучыліся кіраваць самай прымітыўнай лялькай-пятрушкай, вучыліся ствараць вобраз для ажыўлення ўмоўнай лялькі. Колішні вучань Бжазінскага па Беластоцкай тэатральнай акадэміі Вальдэмар Вalянскі, які зараз узначальвае лялечны тэатр "Арлекін" у Лодзі, за тыдзень заняткаў падрыхтаваў з падлеткамі выдатную пластычную кампазіцыю, якая ўразіла гледачоў сваёй напружанасцю і сэнсавай напоўненасцю. Пластычнаму руху вялікую ўвагу аддала на сваіх занятках і выпускніца Танцавальнай школы Марцэліна Паюта. Яе кампазіцыі "Афрыка" і "Мухі" публіка ўспрыняла асабліва эмацыянальна. Больш за ўсіх працавала з дзецьмі выкладчыца сучаснага танца з Парыжа Беатрыс Лётрэт, дыпламаваны прафесар, выхаванка Сарбонскага універсітэта. Нягледзячы на трыццаціпяцігpадусную спякоту дзеці старанна выконвалі ўсе патрабаванні выкладчыцы-парыжанкі, якая нястомна адпрацоўвала з імі розныя элементы сучасных танцаў, вучыла спалучаць сінхроннасць з пластычнай індывідуальнасцю кожнага ўдзельніка праграмы.

Канчатковым вынікам тэатральнага семінара, яго "справаздачай" стаў спектакль "Абразкі з выставы" на арыгінальную музыку Мусаргскага, што паставіў кіраўнік Чорнага тэатра Томаш Бжазінскі.

Год таму заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Грамовіч, акцёр і рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек у Мінску, быў выкладчыкам на III Міжнародных варштатах Чорнага тэатра. Сёння ён упэўнены: ідэю "варштатаў" няблага было б увасобіць на Беларусі. І вось зараз, дзякуючы супрацоўніцтву Беларускага саюза тэатральных дзеячаў і Томаша Бжазінскага такая магчымасць з'явілася. Ужо ў канцы кастрычніка распачнецца першая беларуска-польская акцыя па працы з беларускай тэатральнай моладдзю. Унікальны Чорны тэатр Томаша Бжазінскага наведае Мінск. 25-27 кастрычніка семнаццаць польскіх падлеткаў пакажуць у сталічным Доме ветэранаў тры спектаклі, адзін з якіх, дабрачынны, паглядзяць дзеці-сіраты. А крыху пазней на базе 137-ай тэатральнай школы з'явіцца і наш, беларускі Чорны тэатр, дзе заняткі з падлеткамі на працягу амаль года будзе весці сам Томаш Бжазінскі. Гэтым ён "верне" Беларусі сваю творчую "запазыку" — шмат гадоў таму акцёр

# ФРАНЦУЗСКІ ДОМ НА МІНСКАЙ ВУЛІЦЫ




13 верасня 2002 года ў мастацкай галерэі "Зямля людзей" адбыўся вернісаж "Дом Прутэ". Дырэктар галерэі Іў Прудом ужо шэсць гадоў жыве ў Мінску, арганізоўваў ён тут выставы невыпадкова. Яго прадзед вельмі любіў эстампы. У 1875 годзе ў Парыжы ён арганізаваў "Дом Прутэ", які меў сусветную славу, бо прапагандаваў мастацкую спадчыну гравюры, літаграфіі малюнка. Іў працягвае справу свайго продка, і сёння ўсе, хто прыйшлі на выставу, убачылі не імітацыю старых фотак, альбо ксеракопіі, а сапраўдныя гравюры, зробленыя на метале ў XVII—XVIII стагоддзях у Францыі. Побач у дзвюх невялічкіх залах размясціліся каляровыя афорты сучасных беларускіх мастакоў — узоры нашай мастацкай школы на мяжы XX—XXI стагоддзяў.

Выкладчыкі Акадэміі мастацтваў, мэтры ў галіне афорта Валерый Славук і Уладзімір Вішнеўскі прадэманстравалі ў сваіх творах прафесіяналізм. Як мастакі яны фарміраваліся і вучыліся адначасова, разам ладзілі выставы як у Беларусі, так і за межамі краіны. Зараз разам выхоўваюць маладых мастакоў, перадаючы ім свой вопыт, майстэрства.

Побач з настаўнікамі выставілі свае працы сённяшнія і былыя студэнты акадэміі: Юры Якавенка, Вольга Нікішына, Юрый Анісевіч, Тамара Шэлест, Алена Шычко, Ганна Ціханава. Белыя сцены сучаснай галерэі непадалёк ад гістарычнага цэнтра старога Мінска ад столі да падлогі ўвешаны цудоўнымі творамі беларускіх мастакоў. Трэба адзначыць, што ўсё зроблена па-сучаснаму, з густам, адпавядае зместу і сэнсу дадзенай мастацкай акцыі. Тут на выставе ўсіх, хто цікавіцца гэтым відам мастацтва, чакаюць гравюры, у якіх спалучана майстэрства мастака і друкара, ювелірная вытанчанасць ліній і напружанасць колеру. І ва ўсім гэтым адчуваецца імкненне знайсці ў мастацтве сваё, сваю дарогу да творчай дасканаласці. І хоць графіка сярод калекцыянераў не надта папулярны від мастацтва, наша беларуская школа паказала, што мы можам спаборнічаць з майстрамі высокага класа як у Еўропе, так і за яе межамі. Як адзначыў на адкрыцці выставы Уладзімір Вішнеўскі: "Тыя людзі, якіяканчаюць нашу Акадэмію мастацтваў, маюць адметную тэхніку, сваё бачанне свету". "У экспазіцыі разам са сваім







Томаш Бжазінскі стажыраваўся ў народнага артыста Беларусі Анатоля Ляляўскага, сын якога зараз узначальвае Беларускі дзяржаўны тэатр лялек.

Будзем спадзявацца, што адметныя парасткі польскай тэатральнай культуры прыжывуцца і на беларускай глебе.

**Алена РАМАНОВІЧ,**
**тэатразнаўца**

*НА ЗДЫМКАХ: кіраўнік Чорнага тэатра Томаш Бжазінскі; юныя артысты тэатра.*





афортам "Піета" Вішнеўскі ўверсе павесіў друкарскую дошку, каб усе бачылі як робіцца такога накірунку твор. Яшчэ хочацца дадаць, што Ю Прудом заўсёды выдае да выстаўкі каталогі пра кожнага, хто выстаўляецца ў ягонай галерэі. Сёння ён зрабіў невялічкую кніжачку, з біяграфічнымі дадзенымі мастакоў, а ў канцы — асноўныя тэхнікі, інструменты і розныя віды штрыхоў, змясціў і гісторыю гравюры.

**Галіна ФАТЫХАВА**

# СТАЛАСЦЬ ТВОРЧАСЦІ, МАЛАДОСЦЬ ДУШЫ

Мастаку Міколу Кірэеву споўнілася ў гэтым годзе пяцьдзесят. Гэты момант творчай сталасці ён перажыў для сябе непрыкметна, працягваючы працаваць над жывапіснымі кампазіцыямі з няўлоўнай колеравай пластыкай. Яго творы вылучаюцца, бадай, на любой выставе. Нечаканым колерам, ад срэбна-белага да палымяна-чырвонага... Нескладанай, але рухомай, жывой кампазіцыяй, гармоніяй постацяў на палатне, якая запамінаецца заўжды новым поглядам мастака на сусвет. Апошнія выставы прадставілі мастака па-новаму. Ён не змяніў кардынальна стыль, не кінуўся ў авангардызм, не здрадзіў лірычнасці, паважае форму і натуру. Проста ён не спыняе пошукаў, і не столькі тэматычных, што не было б дзіўна ў наш зменлівы час, а фармальна-творчых, мастацкіх. Маючы ўжо набыткам сталасць і майстэрства, уласны стыль і пазнавальны почырк, ён не супакойваецца ў творчасці. На поўным сур'ёзе лічыць сябе мастацкім хуліганам і шалапутам у натоўпе заспакоеных душою. Жыццёвая энергія адбілася і на яго постаці, чалавекам сталага веку яго ніяк не назавеш.

Міколу Кірэева паважаюць студэнты — за яго няўрымслівасць і шчырае суперажыванне. Штогод хоць адзін, але трапляецца яму дыпломнік з "праблемамі". І мастак як педагог выцягвае яго на належную прафесійнасць жывапісу, але не за кошт паправак, а праз разуменне студэнтаў як сваіх калег, павагу да іх думкі, сур'ёзнае пераконванне ў сваіх поглядах. У Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў (раней яна называлася Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут) Мікола Кірэеў трапіў па запрашэнні. Паспрабаваць выкладчыцкага хлеба. І застаўся вось ужо на пятнаццаць год. Праўда, пры кожнай сустрэчы не лянуецца нагадаць, як прымальвае свабода творчасці, як перашкаджае мітусня студэнцкага асяродку і штодзённая праца на кафедры жывапісу.

У майстэрні ж М.Кірэева заўжды проста і ўтульна. Такі выгляд ёй надаюць распачатыя і няскончаныя працы. Тут ёсць адметныя "кірэеўскія" партрэты, абстрагаваныя ад рэальнасці кампазіцыі, пейзажныя настраёвыя карціны, дзе валадарыць зусім не прырода, а нейкая пераўвасобленая істота самога мастака — у хвалях колеру і гармоніі. Мастаку досыць нязначнай правакацыі, каб распачаць новую працу. Але пры гэтым М.Кірэеў — не пленэрны мастак. Ён піша свае карціны не з натуры, а згодна з унутраным уяўленнем пра рэчы і істоты.

Прыцягальнасць работ Міколы Кірэева — у іх балансаванні паміж дакладнасцю формы, сюжэта і абстрагаванасцю раскрыцця гэтай формы. Што, здаецца, можа быць больш канкрэтным, чым партрэт. Мастак не можа тут абысціся без некалькіх сеансаў пазіравання сваіх герояў, а апошнім часам — больш гераінь. Мастак схоплівае сутнасць чалавека, але не перадае гэта класічным чынам. Ён ідзе ад эмацыянальнага ўражання, ад вобраза, які павінен хваляваць, настройваць на развагі. Жанчына, разважае мастак, гэта імгненне прыгажосці, і гэта імгненне трэба ўхапіць і пакінуць хаця б на палатне. Адсюль — нерэальна выцягнутыя, нібы рухомыя жаночыя постаці, доўгія лебядзіныя шыі, маленькія галоўкі, улюбёна падкрэсленыя аголеныя жаночыя формы. Зрэшты, і У.Караткевіч згадваў пакатыя плечы і вытанчаныя постаці жанчын, створаных для любові. Але ў жаночых вобразах Кірэева няма адкрытай эратычнасці. Гэта магло б груба разарваць танюткі флёр паэтычнай замілаванасці, які дадае кожнай жанчыне загадкавасці і прыцягальнасці. Сам жа мастак прызнаецца, што любіць пісаць і мужчынскія партрэты. І яны яму ўдаюцца меншымі намаганнямі: мужчыну не трэба "разгадваць", бяры пэндзаль і пішы.

У сваіх фармальных, абстрагаваных кампазіцыях мастак таксама ідзе ад натуры. "Абстракцыя не адрываецца ад рэальнасці, абстрагаваная форма — тое адзенне, у якое апранаецца рэальнасць. І самая вялікая праблема для мяне тут, знайсці вострую і сучасную форму. Пражытыя гады дадалі мне вопыту і сталых звычак. Але самае кансерватыўнае ў чалавеку — мысленне, якое і трымае за крылы. Хацелася б, каб хапіла сіл не спыніцца ў межах ужо знойдзенага ў творчасці, пераспіць міжвольнае жаданне супакоіцца і, знайшоўшы наладжаныя кантакты за мяжою, не тыражыраваць самога сябе", — разважае мастак.

Здаецца Міколу Кірэеву гэта не пагражае, пакуль не знікне яго несупыннае жаданне шукаць самога сябе, зачароўвацца жыццём, штодня гайдаючыся на хвалях самых нечаканых адценняў колеравага мора. Рэдка пачуеш ад мастака, што яго задавальняе скончаная праца. Часцей яго цягне адразу перарабіць палатно, перапісаць яго. Але схопленыя першым моцным уражаненнем настрой і колер не заўжды можна давесці да ладу рацыянальным тэхнічным падыходам. Нездарма Мікола так баіцца такога рацыяналізму і імкнецца да інтуітыўнага жывапісу. А для гэтага яму трэба ўвесь час быць у стане творчага натхнення, што вельмі цяжка ў нашым разарваным на дробязі жыцці. Каб злавіць тое творчае, цэльнае, трэба прыкладваць вялікія намаганні. Бо самае галоўнае для мастака, пакінуць на зямлі свае сляды — свае карціны.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# НОВАЕ Ў ЭКСПАЗІЦЫІ МЯСЦОВАГА МУЗЕЯ

Музей "Партызанская слава" ў вёсцы Гарэлец Пухавіцкага раёна – філіял Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея. Музея, які вядомы сваёй увагай да літаратурнай гісторыі Міншчыны . Што датычыць гарэлецкага філіяла, то ў ім – расповед пра рускага пісьменніка Усевалада Сабліна, гасцей гарэлецкіх школьнікаў у самыя розныя гады Ядвігі Юльянаўны Раманоўскай, Аляксея Кулакоўскага, Станіслава Шушкевіча.

Асобнае месца ў літаратурным краязнаўстве Пухаўшчыны займае даследаванне жыцця і творчасці празаіка і публіцыста Макара Паслядовіча, які нарадзіўся ў вёсцы Караваева, а летаваў, рыбачыў у Гарэльцы, суседніх вёсках. Новыя матэрыялы пра пісьменніка-земляка занялі ганаровае месца ў музеі "Партызанская слава". А нядаўна яго гасцямі сталі дачка літаратара – Галіна Макараўна, яе муж, унукі Макара Паслядовіча. Менавіта дзякуючы усім ім і папоўніўся філіял краязнаўчага музея новымі матэрыяламі.

Гарэлецкі музей мог бы стаць у пэўнай ступені музеем, скарбніцай літаратурнай гісторыі Пухаўшчыны часоў Вялікай Айчыннай вайны. А гэта – расповед пра лёсы, падпольшчыкаў Макара Паслядовіча і Ларысы Кароткай, партызан Яніны Крайнік і Усевалада Сабліна, партызанскага журналіста, рэдактара Уладзіміра Ляўданскага, пісьменнікаў Якуба Коласа, Міхася Пянкрата.

Сёння ў "Партызанскай славе" гаспадарыць настаўнік-пенсіянер Сяргей Іванавіч Сіпач. 50 гадоў свайго жыцця аддаў ён краязнаўчай ніве. За гэты час, акрамя работы па стварэнні музея, дзесяткі разоў выступаў у друку, шмат намаганняў і сіл прыклаў дзеля арганізацыі партызанскіх сустрэч.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# У ГОНАР ЯНКІ КУПАЛЫ І ЯКУБА КОЛАСА

"Вечна жывыя імёны" — так называлася раённае свята, прысвечанае 120-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа, якое праходзіла ў Мётчанскай сярэдняй школе Барысаўскага раёна.

Месца правядзення свята было выбрана невыпадкова: калектыў школы на чале з дырэктарам Уладзімірам Лайковым нямала ўвагі ўдзяляе не толькі вывучэнню і прапагандзе творчасці песняроў, але і ўсёй шматграннай дзейнасці ў справе выхавання школьнікаў на традыцыях духоўнасці і культуры беларускага народа. У школе дзейнічае літаратурны музей, які не раз наведалі і пакінулі свае аўтографы Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і іншыя нашы вядомыя пісьменнікі.

Вось і на гэтае свята ў школу прыязджалі паэты Алесь Пісьмянкоў і Навум Гальпяровіч, а таксама былы выпускнік школы Янка Лайкоў.

У праграме свята былі выстаўка лепшых сачыненняў, насценгазет, малюнкаў, прысвечаных юбілейнай тэматыцы, выступленні юных паэтаў раёна, калектываў мастацкай самадзейнасці.

**Н. К.**

# «ВОЖЫК», № 9

Выйшаў з друку чарговы, дзевяты нумар часопіса сатыры і гумару "Вожык". Тыя, каму падабаюцца прыгожыя, смешныя, каляровыя малюнкі, адразу звернуць увагу на прыгожую вокладку, якую намаляваў мастак Іван Бокій, а таксама на малюнкі вядомых карыкатурыстаў Аляксандра Каршакевіча, Алега Папова, Аркадзя Гурскага, Андрэя Слуцкага, Віталя Кушнярэвіча, Пятра Козіча, Уладзіміра Чугლазава, Аляксандра Шміта і іншых.

Аматары гумарыстычнай прозы, мяркуем, з задавальненнем пачытаюць перадапошні раздзел аповесці Пятра Васючэнкі "Залёты гаспадара Нупрэя Ліштэлкі" пад назвай "Унутраны голас", гумарэскі Генадзя Ануфрыева "Бумеранг", Паўла Місько "Рака Місісіпі", Уладзіміра Правасуда "Зайздрасць", Юліі Зарэцкай "Дарэмныя хваляванні", Рудзі Штраля (з Германіі) "Можаце не хваляваўцца...". Тым, хто любіць фельетоны і публіцыстыку, прапануюцца творы Уладзіміра Шкаброва "Нюхай, Мікіта!", Анатоля Смалянкі "Ротмістр Кульчыцкі раіць...", кароткія творы пад рубрыкамі "Іголкатэрапія", "Навіны з МУС: матай на вус...", "Вожыку пішуць...", "Як стала вядома...".

Упрыгожваюць нумар і падборкі вершаў "Віншуем! Рыгору Яўсееву — 60!", "Класікі смяюцца. Максім Танк", "Па праўдзе кажучы..." Кузьмы Чмялі, "Пародыі" Міколы Шабовіча і Міхася Журавіны, "Бяскрыўдны розыгрыш" Міколы Аўрамчыка, а таксама сатырычныя мініяцюры Марціна Коўзкага, Вадзіма Красоўскага, Міхася Слівы, Ляксея Ляксюка. Для дзяцей — як заўсёды, вясёлая старонка "Калючык", у якой прадстаўлены самыя разнастайныя жанры: вершы, смяшынкі, гумарэскі, загадкі.

Дарэчы, як сцвярджае часопіс "Вожык" і папярэджвае доктар Крыжаноўскі, калі вы жадаеце ад неўрозу, бяссонніцы, скінуць лішнюю вагу ці проста захаваць сям'ю, хутчэй хапайце грошы і бяжыце... Ды не! Не ў аптэку, а на пошту! І як мага хутчэй афармляйце падпіску на часопіс "Вожык". Гэта будзе значна танней, чым якая-небудзь "Віагра", і намнога эфектыўней за карвалол. Бо праўду казалі знакамітыя філосафы: "Смех працягвае жыццё!"

**Уладысь ЦВЯТКОЎ**

# РАДЗІМАЗНАЎЦЫ, РАКАЎ ЧАКАЕ ВАС!

Як бяжыць час! Здаецца, нядаўна, дакладней — у 1996 годзе, адбыліся першыя, тады яшчэ рэспубліканскія, Ракаўскія чытанні, а вось ужо надышлі і чарговыя, чацвёртыя, якія, як і два папярэднія, набылі ўжо статус міжнародных. Яны пройдуць 5 кастрычніка г. г. і, як заўсёды, на базе Раўскай СШ. На гэты раз тэматыка іх — "Пісьменнік і Радзіма (родны кут)", і прысвячаюцца яны знамянальным датам, што адзначаюцца сёлета па ўсёй Беларусі, — 120-годдзю з дня нараджэння класікаў роднага пісьменства Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Чаму выбрана для чытанняў менавіта вышэй названая дата? 3-га і 4-га кастрычніка ў Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі праводзіцца Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, на якую прыедуць выдатныя айчынныя і замежныя вучоныя. Асобныя з іх працягнуць свае камандзіроўкі на адзін дзень, каб паўдзельнічаць і ў Ракаўскіх чытаннях. На жаль, мы не маем матэрыяльных магчымасцей, каб спецыяльна запрасіць знакамітых іншагародніх і, тым больш, іншаземных навукоўцаў у Ракаў. Такія далучэнні да нашых канферэнцый — адзіны для нас спосаб (хочацца спадзявацца, пакуль што), каб захаваць набыты ўжо высокі міжнародны статус Ракаўскіх чытанняў. Ёсць і яшчэ адна нагода, каб правесці чытанні менавіта ў гэты дзень. Як вядома, сёлета Дзень настаўніка выпадае на нядзелю 6 кастрычніка. Чытанні, такім чынам, -- своеасаблівы падарунак да гэтага дня не толькі настаўнікам Ракава, але і ўсім настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Валожынскага раёна, якія афіцыйна запрошаны на высокую навуковую канферэнцыю.

Канферэнцыя, як ужо сказана, прымеркавана да юбілеяў нашых песняроў. Таму шэраг дакладаў прысвячаецца іх жыццю і творчасці: "Родны кут" і "вялікая Радзіма" ў творчасці беларускіх класікаў" (прафесар Дзмітрый Бугаёў), "Вобраз Радзімы ў творчасці Якуба Коласа перыяду Вялікай Айчыннай вайны" (дацэнт Вольга Казлова), "Санеты Янкі Купалы ў перакладах на англійскую і нямецкую мовы" (прафесар Наталля Ніжнёва), "Далучэнні Янкі Купалы і Якуба Коласа да Валожыншчыны" (прафесар Вячаслаў Рагойша), "Выяўленне духоўнай энергіі краю ў творчасці Янкі Купалы" (галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін), "Ракаўская старонка польскага перакладу "Новай зямлі" (кандыдат філалагічных навук Язэп Янушкевіч) і інш. Аднак гэта не значыць, што на Ракаўскіх чытаннях гаворка пойдзе толькі пра сёлетніх класікаў-юбіляраў. Новыя факты пра тое, што дала т. зв. "малая радзіма" пісьменнікам і што яны вяртаюць і ёй, і "вялікай Радзіме", і ўсяму свету, будзе весціся і ў дачыненні да іншых беларускіх майстроў мастацкага слова.

Так, удзельнікі і госці Ракаўскіх чытанняў пачуюць пра "Случчыну ў аўтабіяграфічнай прозе Алены Васілевіч" (дацэнт Таццяна Дасаева), "Малую радзіму" Уладзіміра Караткевіча (дацэнт Віктар Іўчанкаў), "Вобраз роднай вёскі ў Міхаіла Улашчыка" (прафесар Аляксей Каўка), "Радзіму рэальную і віртуальную ў творчасці Уладзіміра Дубоўкі" (дацэнт Міхась Кенька), "Прыгожае пісьменства на землях Міра і Карэліч" (дацэнт Уладзімір Навумовіч), "Радзіму і "безрадзім'е" ў творчасці Паўлюка Вазёрнага" (дацэнт Алесь Пашкевіч), "Вобразы роднага краю ў паэзіі Наталлі Арсенневай" (прафесар Людміла Сінькова), "Малую радзіму" Івана Шамякіна" (прафесар Таццяна Шамякіна), "Вобраз Радзімы ў паэзіі для дзяцей Максіма Танка" (прафесар Марыя Шаўлоўская), "Родны кут у дзённіках Фердынанда Рушчыца" (кандыдат мастацтвазнаўства Фелікс Янушкевіч) і інш. Пра месца і ролю пісьменніка ў рэспубліканскім друку, на радыё і тэлебачанні распавядуць прафесіяналы-журналісты дацэнты Васіль Вараб'ёў, Валерый Шэйн і Людміла Шылава.

І ўсё ж, зразумела, на чытаннях будуць колькасна пераважаць даклады пра прыгожае пісьменства тэго "кута", дзе адбываюцца навуковыя чытанні, пра пісьменнікаў, ранейшых і сучасных, цесна звязаных з Ракаўшчынай і Валожыншчынай у цэлым. Пра гэта будуць гаварыць прафесары Аляксандр Баршчэўскі ("Трагічнае і гумарыстычнае ў жыцці і творчасці Сяргея Пясецкага"), Святлана Ганчарова-Грабоўская ("Ракаўшчына ў жыцці і творчасці А. Бястужава-Марлінскага"), дацэнты Пётр Дарашчонак ("Ракаўскі шлях" як узор культурна-асветнага выдання для "малой радзімы"), Таццяна Кабржыцкая ("Ракаўскі шлях украінскіх пісьменнікаў"), Васіль Ліцьвінка ("Фальклор Валожыншчыны"), Ніна Рашэтнікава ("Паэзія Віктара Шніпа"), кандыдат філалагічных навук Пётр Рагойша ("Ракаўшчына ў жыцці і творчасці Сяргея Пясецкага") і інш. Два даклады будуць прысвечаны В.Дуніну-Марцінкевічу, які ўсё сваё творчае жыццё правёў і пахаваны на Валожынскай зямлі, — Яўгена Гарадніцкага ("Дыялектыка рэгіянальнага і універсальнага ў творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча") і Святланы Фацеевай ("Зназіранняў над мовай В.Дуніна-Марцінкевіча").

Вельмі прыемна, што на гэты раз актыўны ўдзел у Ракаўскіх чытаннях прымаюць мясцовыя настаўнікі, і не толькі ў ролі слухачоў, але і дакладчыкаў. Так, намеснік дырэктара Вішнеўскай СШ Марыя Круцько раскажа пра ролю літаратурнай Вішнеўшчыны ў выхаванні школьнікаў, настаўнік Лоскай базавай школы Яўген Жамойдзін — пра слаўнага сына Лоскай зямлі Сымона Буднага, настаўніца СШ № 1 горада Валожына Валянціна Лукашанец — пра валожынскіх пісьменнікаў Старога Уласа, Алену Рубацкую, Міхася Курылу і Валянціну Гіруць-Русакевіч.

Папярэднюю згоду на ўдзел у Ракаўскіх чытаннях далі акадэмік Іван Навуменка, прафесары Алег Лойка (Мінск), Юрый Лабынцаў (Масква), Алег Фядотаў (Польшча), Іван Штэйнер (Гомель), кандыдаты філалагічных навук Аляксандр Свораб, Ірына Шаўлякова, паэты Людміла Рублеўская, Віктар Шніп і інш.

У межах Ракаўскіх чытанняў адбудуцца прадстаўленне мясцовай ракаўскай газеты "Ракаўскі шлях" (выйшла ўжо 13 нумароў), а таксама новых выданняў: "Санеты" Янкі Купалы (на беларускай, англійскай, іспанскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай і французскай мовах) і "Новая зямля" Якуба Коласа (на беларускай, рускай і польскай мовах). У Паморшчыне (прадмесце Ракава) удзельнікі чытанняў будуць удзельнічаць у адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар бацькоў Янкі Купалы Дамініка Ануфрыевіча і Бянігны Іванаўны: тут яны працавалі да пераезду ў Вязынку, перад самым нараджэннем свайго першынца Яся; сёлета споўнілася 100 гадоў з дня смерці бацькі песняра і 60 гадоў — з дня смерці маці...

Увесь прадстаўнічы аргкамітэт Ракаўскіх чытанняў, які ўзначальвае старшыня Валожынскага райвыканкама Іван Маркевіч, а таксама калектыў Ракаўскай сярэдняй школы на чале з яе дырэктарам Пятром Дубаўцом робяць усё неабходнае, каб чытанні прайшлі на высокім навуковым і арганізацыйным узроўні, прынеслі адчувальную карысць у распрацоўцы праблем краязнаўства, радзімазнаўства, у патрыятычным выхаванні маладога пакалення беларусаў.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# СВЯТА

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

Воз. Мірыяды сонцаў дыхалі ў ягонай глыбіні, зачароўвалі, зацягвалі розум з зямлі ў неба. Можа быць, і душы тых, хто знаходзіўся ў вежах і самалётах, мігцяць зараз парушынкамі сярод гэтых сонцаў. Быў, быў у мяне сон, калі маё сэрца вырвалася з грудзей і панеслася ў бездань, напоўненую агнямі. Там яно павінна было выбухнуць, пераўтварыўшыся ў агонь, але... Выбухнула нейкае іншае сэрца, маё застапося ў мяне.

Дарэчы, а дзе зараз душы забойцаў, якія накіроўвалі самалёты ў вежы? І ці ёсць у іх душы? Спытаць бы аб гэтым прадстаўнікоў нецывілізаваных народаў, але мы гаворым на розных мовах. Як жа мы тады будзем жыць побач у трэцім тысячагоддзі? Стаміўся, вельмі я стаміўся на гэтым свяце смерці.

Я паглядзеў на бутэльку "Баварыі" ў сваёй руцэ. Яна была напаўпустая. Н-так, нядобра атрымалася. Але і ўбок яе ўжо не адставіш. Вось яно, зацямненне розуму ад віна. Не хацеў рабіць — а зрабіў? Госпадзі, даруй нам грахі нашы вольныя і нявольныя...

— Добра, нецывілізаваныя народы, — сказаў я, падымаючыся, — хто хоча вайну, той яе атрымае. Але ведаеце, чаму пачынаюцца войны?

— Чаму? — перастаў есці персік Султан.

— Таму што людзі падзяліліся на вашых і нашых. І вінаватыя ў гэтым вы.

— Мы?! — утаропіліся на мяне тры пары чорных вачэй.

— Вы. Толькі ў ісламскай рэлігіі ўзнагароджваецца той, хто забіў гяура.

— Дураньты, — сказаў Султан і кінуў на зямлю недаедзены персік. — Усе рускі дурань.

Ён таксама пачаў гаварыць з акцэнтам.

— Па-першае, не дурань, — абразіўся я, — а па-другое — не рускі.

— Як не рускі?! — схіліўся да мяне, быццам абнюхваючы, Султан. — У цябе скура белы.

— Як кажуць браты-хахлы, у нас ва ўсіх павінна быць гарны валосся та здарова шкіра.

— Што такі шкіра? — навіс нада мной Аслан.

— Шкіра — гэта скура. А я беларус, — сказаў я з сумам.

— Беларус таксама рускі, — зняважліва махнуў рукой Султан.

— Толькі бяднейшы, — вымушаны быў згадзіцца з ім я. — Аднак заўваж: мы бедныя — ды не з вамі. Слухай, а якога хрэна яны да Лукашэнкі прычапіліся? Якая іх сабачая справа, каго беларусы выбралі сваім прэзідэнтам?

— Хто пры-ча-піц-ца? — асцярожна даведаўся Султан.

— Амерыканцы.

— Э! — скрывіўся ён. — Амерыка сваё атрымаў. І яшчэ атрымае.

— "Не дамовімся мы з імі, — канчаткова працверазеў я. — Але не таму, што ў нас розны колер скуры".

Я кінуў пад ногі пустую бутэльку і пакрочыў у цемру. З месцаў, як гэтая забягалаўка, трэба ісці не развітваючыся.

# У МЯНЕ ТАКОЕ ПРОЗВІШЧА

## Мікалаевіч і Сяргеевіч

У нашай вёсцы Патапаўка, што ў сямі кіламетрах ад Буда-Кашалёва, прозвішча Зэкаў даволі-такі распаўсюджанае. Не менш, а то і больш, чым Гарэлікаў, Кірыленка, Шутаў, Янчанка. Калі я вучыўся ў школе, то ў класе адзін вучань меў нават аднолькавае са мной імя. Так што, выклікаючы да дошкі, нас называлі няйнакш як па бацьку: Мікалаевіч, Сяргеевіч. Многія, скажу, зайздросцілі. Сяргеевіч дык яшчэ і выгоду меў: вучыўся ён не дужа, то новы настаўнік, пакуль раскумекае, нярэдка мае адзнакі памылкова ставіў у графу з прозвішчам цёзкі. Здаралася, праўда, і наадварот, што мяне, вядома ж, не радавала.

Зрэшты, калі я друкаваў нешта ў газетах "Піянер Беларусі" ці "Зорька", то атрымліваў шмат лістоў ад равеснікаў (пераважна — равесніц). На канвертах не было імя па бацьку, і асобныя лісты траплялі да Сяргеевіча. Некаторым дзяўчаткам ён, як сам прызнаваўся, нават адказваў. Уяўляю, як здзіўляліся тыя, чытаючы абсалютна непісьменныя пасланні майго цёзкі. Бадай, думалі, што вершы, аказваецца, можна складаць і зусім не ведаючы мовы...

## «Я — зэк»

Неяк з Алесем Пісьмянковым вярталіся цягніком з яго радзімы ў Мінск. Выйшлі ў тамбур пакурыць. Стаім, размаўляем.

Раптам да нас падкочваецца падвыпіты здаравяк — рукі сінія ад татуіровак.

— Куды шлях трымаеце, мужыкі? — пытае.

— У Мінск, — адказваю.

Тут усе — у Мінск. А канкрэтна?

— Дзе жыву ў Мінску? — перапытваю я. — На Захадзе.

— Павязеш мяне на таксі, — камандуе здаравяк.

— З чаго б гэта? — ледзьве не ў адзін голас пытаем мы з Алесем.

— А вы, відаць, не ўехалі, хто я.

Мы таго не ведаем і ведаць не жадаем.

Я — зэк, — з гонарам вымаўляе здаравяк.

І раптам я не вытрымліваю:

— А чым ты гэта дакажаш?

— Як чым?

— Дакумент у цябе ёсць, дзе напісана, што ты зэк?

Здаравяк рагоча:

— Ну, зямеля, ты і скажаш. Хто ж такія дакументы выдае?

— А ў мяне ёсць, — блазную я і дастаю рэдакцыйнае пасведчанне.

— Зэк.., — чытае ён першым літары майго прозвішча і ад здзіўлення ледзь не ссоўваецца па сцяне долу. Хіба што паспявае запытаць: — Дзе ўзяў?

— Пахан выдаў, — мімаходзь кідаю я.

...Мы яшчэ не раз выходзілі пакурыць. Следам выходзіў і здаравяк. Запрашаў да сябе выпіць разам. Хаця, калі мы аднекваліся, дужа не настойваў. Пэўна, "пахана" пабойваўся.

## З «АІ» —у «Э»

Падчас вучобы ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце, калі мы праходзілі курс этымалогіі і якраз разбіралі паходжанне прозвішчаў, нехта з маіх аднагрупнікаў пацікавіўся:

— А ад чаго ўтварылася прозвішча Зэкаў?

— Не ад таго, ад чаго вы думаеце, — зразумеўшы, куды хіліць "запытальнік", усміхнулася выкладчыца. — Прозвішча Зэкаў узнікла нашмат раней, чым слова "зэк", у якога, між іншым, савецкія карані, і паходзіць яно, як мне думаецца, хутчэй за ўсё ад Заікі. Тым больш, што носьбітаў *апошняга прозвішча на Беларусі* нямала. Магчыма, у асобных з іх дыфтонг "аі" (памятаеце стараславянскую мову?) і перайшоў у "э"...

Тлумачэнне выкладчыцы праз гады падштурхнула мяне да напісання верша "Легенда прозвішча", які я прысвяціў сыну Сяргею.

## У Ленінскі нумар?

Адзін вядомы беларускі пісьменнік пры нашай першай сустрэчы кальнуў:

— Навошта ты сабе такі псеўданім узяў? — і тут жа дадаў: — Ці не лепш было б проста — Зэк?

Ён тады яшчэ не ведаў, што Зэкаў — гэта маё сапраўднае прозвішча.

А вось узяць псеўданім, дарэчы, мне прапаноўвалі неаднойчы: маўляў, ахвотней друкаваць будуць без "зэкаўскага" прозвішча.

Я не дужа верыў. Пакуль нядаўна не пачуў ад Міколы Чарняўскага згадку пра даўняе: калі я, вучань Патапаўскай сярэдняй школы, дасылаў вершы ў "Бярозку", дзе тады працаваў мой зямляк, то тагачасны рэдактар часопіса Кастусь Кірэенка на прапанаваныя Міколам да друку мае патрыятычныя творы нярэдка казаў накшталт гэтага: "Што, Зэкава у ленінскі нумар? Не, давай лепш у наступны. А то могуць не зразумець. Прозвішча ж не стасуецца з тэматыкай".

... А ў 1996 годзе ў Дзень Незалежнасці ў "Народнай газеце" быў апублікаваны мой верш "Воля". Сябры потым жартавалі: "Анатоль Зэкаў і "Воля"? Цікава-цікава..."

Кастусь Кірэенка, мусіць, такога б не дазволіў.

## Сустрэча на пляцы

У 1981 годзе разам з сябрамі-аднакурснікамі па Вышэйшай камсамольскай школе пры ЦК ВЛКСМ праходзіў ваенныя зборы ў Рукле, што пад Каўнасам.

Шыбуем неяк удвух з башкірам Даларысам Габдуліным міма пляца, дзе займаюцца страявой падрыхтоўкай дэсантнікі, і раптам чую:

— Радавы Зэкаў!

Ногі самі застылі на месцы. Надта нечакана пачуць сваё прозвішча, якое, акрамя мяне, тут, аказваецца, мае яшчэ нехта.

Падышлі бліжэй, пацікавіліся ў старшыны, які праводзіў заняткі, ці не ачуліся.

Аж не. Радавы Зэкаў, з якім мы пазнаёміліся і колькі хвілін пагаварылі, прызваўся ў войска з шахцёрскай Горлаўкі. А вось дзядуля майго аднафамільца, па ягоных словах, аднекуль з-пад Гомеля, адкуль і прыехаў здабываць вугаль на Данеччыну яшчэ маладым. На жаль, канкрэтнага месца нараджэння дзядулі салдат не ведаў.

А мне ўсё здаецца, што ён родам з маёй Патапаўкі...



## «Распаясалася моладзь...»

Гэта было ў 1990 годзе — якраз, калі на Беларусі актывізаваўся так званы нефармальны рух. Я тады працаваў намеснікам рэдактара "Чырвонай змены". Газета, зрэшты, вылучалася сваёй, адрознай ад афіцыйнай, пазіцыяй.

І вось Валерый Плюскоў пакінуў рэдактарскае крэсла. Дачуўшыся, што на ягонае месца рыхтуецца стаўленік ад улады, нефармалы на прыступках Дома друку выставілі пікет, дзе, апроч іншых, быў і транспарант — "Зэкава — у рэдактары".

Я туды не хадзіў, але калегі расказвалі, як нейкая жанчына, раптам спыніўшыся, усё абуралася:

— Зусім распаясалася моладзь. Бач ты, ім ужо нейкага зэка ў рэдактары падавай...

## Між іншым

Нехта з маіх калег па літаратурным цэху трапна пажартаваў: "У нас на Зэкава ёсць Законнікаў, Правасуд і Дубінка".

Між іншым, я мог бы насіць і матчына прозвішча — Зарэцкі. Пад ім і жыў год, пакуль сястра Галя не нарадзілася. Пайшоў бацька дачку ў сельсавеце рэгістраваць, а яе таксама мусяць Зарэцкай запісаць. Бацька ўзбунтаваўся. А яму на гэта кажуць:

— А як жа інакш, калі вы самі з жонкай не распісаныя?

Бацька тут жа і распісаўся. А заадно і мяне перапісаў на прозвішча Зэкаў. З таго часу і нашу яго — на адзін год меней, чым жыву на свеце.

## Нашы ў ЗША

Неяк трапіліся на вочы "Весткі й паведамленьні" Нью-Йоркскага аддзела Беларуска-Амерыканскага Задзіночання. Як жа я быў здзіўлены, калі на апошняй старонцы сярод прозвішчаў ахвярадаўцаў на бюлетэнь знайшоў і сваё: невядомыя мне Л. і Ю. Зэкавы пералічылі на яго рахунак 20 даляраў.

Закарцела напісаць: цікава ж, ці не з маёй роднай Патапаўкі карані гэтых амерыканцаў?

Праз колькі часу атрымаў адказ ад рэдактара бюлетэня Марата Клакоцкага. Ён, прынамсі, паведаміў, што Юрась Зэкаў — "малады хлопец, з-пад Менска". Хаця выказаў сумненне, што, магчыма, і памыляецца. Яшчэ спадар Клакоцкі напісаў, што мой ліст ён перадаў земляку: маўляў, калі той пажадае, дык адкажа.

На жаль, амерыканец Ю. Зэкаў не адгукнуўся. Ці то апошнія даляры ахвяраваў на бюлетэнь, ці то, можа, спалохаўся, што ў госці напрашуся...

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## «МЫ ВЕЧНЫЯ ДЗЕЦІ СІВЫХ СТАРАЖЫТНЫХ МУРОЎ...»




У літаратурным аб'яднанні "Наддзвінне" пры дапамозе цэнтра ГАКАІ "Усяслаў Чарадзей" пабачыла свет літаратурна-мастацкае выданне, прысвечанае 1140-годдзю нашага слаўнага гістарычнага горада, якое так і называецца: "Полацку".

"Ідэя выдаць падобны зборнік вершаў даўно выспявала ў нетрах "Наддзвіння". Нарэшце задума ажыццявілася. Сённяшнія наддзвінцы запрасілі да ўдзелу ў выданні і тых паэтаў-землякоў, якія не жывуць цяпер у Полацку, але застаюцца ў душы палачанамі".

Свае вершы прапанавалі такія паэты, як В. Аксак, А. Аркуш, У. Арлоў, Г. Бураўкін, Н. Гальпяровіч, І. Дарафейчук (гэта радок з яе цудоўнага верша я абраў для назвы тэксту), В. Лукша, Н. Салодкая, Лера Сом...

Ёсць вершы і тых палачан, якіх ужо (на жаль) няма з намі: П. Броўкі, Г. Брэскай, а таксама яшчэ малавядомых пакуль шырокай літаратурнай грамадскасці аўтараў: Надзеі Ермак, Вольгі Каленік, Юрася Пацюпы, Змітрака Куніцкага, Віктара Леанені, Алены Шыпілы.

І менавіта ў іх шчырых радках, насуперак вусцішна вышаптанаму нашай вядомай паэткай В. Аксак:

*"Прытулілася лёгкая хваля*
*да стомленых плечыкаў,*
*Адхінула сужылкі зняможаных рук,*
*Дагарэлі на хорах дрыготкія тонкія*
*свечкі,*
*Толькі ў стрэхах Заддзвіння*
*яшчэ гук"* —

можна, дзякаваць Богу, вычытаць і больш аптымістычны спадзеў на айчынную будучыню, як, да прыкладу, у Змітрака Куніцкага:

*"Наша доля парой натыкаецца*
*На знявагу, бяду і адчай,*
*Ды нікому спакон не скараецца*
*Вольны дух крывічоў-палачан".*

Што ж, вечнае не памірае, пра што сведчаць і полацкія святыні, і творчасць саміх палачан.

**Н. К.**

## З ВЕТКІ – У КРАСНЫ РОГ

Ёсць на Браншчыне сядзіба вядомага расійскага паэта Аляксея Канстанцінавіча Талстога. Памяць пра яго жыве і сёння ў сэрцах удзячных землякоў, якія ў апошнія гады ладзяць міжнароднае літаратурнае свята, прысвечанае жыццю і творчасці А.Талстога. На яго кожным разам прыязджаюць пісьменнікі Санкт-Пецярбурга і Масквы, з многіх абласных цэнтраў Расіі, а таксама творцы з Чарнігава і Гомеля.

Сёлета ў свяце ад Гомельскай абласной пісьменніцкай арганізацыі у КрасныmРогу прымала ўдзел паэтэса з Веткі Ларыса Раманава.

**Васіль Барханаў**

ЗГАДКІ

# БЫЛО: ХАДЗІЛІ «НА БАЛОЦІНА»







Сёлета, як ведае чытач "ЛіМа", споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння знанага опернага спевака Ісідара Балоціна. Усе, хто бачыў яго ў оперных спектаклях, чуў у канцэртах, не можа забыцца на прыгожы цёплы тэнар з цудоўным тэмбрам, абаяльнасць артыста, непаўторнае выкананне і лірычных, і характарных партый.

Творчы шлях будучага народнага артыста Беларусі пачынаўся ў Бабруйску. Малады рабочы, удзельнік мастацкай самадзейнасці, проста заварожваў слухачоў пяшчотным прыгожым голасам. Балоцін стаў студэнтам вакальнага аддзялення Мінскага музычнага тэхнікума, куды прыехаў выкладаць расійскі прафесар, адзін з вядомых оперных спевакоў, былы партнёр славутага Фёдара Шаляпіна Антон Баначыч — першы выканаўца партыі Садко ў аднайменнай оперы М. Рымскага-Корсакава.

Першая партыя Ісідара Балоціна — Звездачот у "Залатым пеўніку", першым спектаклі Беларускай опернай студыі. Ужо тады ў складанай, фантастычнай ролі акцёру спадарожнічаў поспех. Сапраўднай удачай спевака была партыя Ленскага ў "Яўгеніі Анегіне": І. Балоцін арыентаваўся тут на стыль собінаўскай трактоўкі, глыбока паказваючы паэтычнасць, шчырасць пачуццяў і перажыванняў свайго героя, які сустрэў вясну кахання. Паэтычнасцю, шчырасцю пачуццяў вылучаўся і створаны ім вобраз Уладзіміра Ігаравіча ў оперы "Князь Ігар". Пераканальна перадаў артыст душэўную драму Саўкі Мільгуна ў оперы А. Багатырова "У пушчах Палесся".

Раскрыць па-сапраўднаму яркі вобраз Герцага ў оперы Д. Вердзі "Рыгалета" артысту дапамог выхаванец тэатра імя У. Неміровіча-Данчанкі рэжысёр П. Златагораў. Гэта яшчэ адзін настаўнік артыста пасля А. Баначыча. А вось што пісаў у газеце "Літаратура і мастацтва" ў 1938 годзе кампазітар А. Багатыроў: "Звычайна опера "Рыгалета" ставіцца па поўным трафарэце італьянскіх опер — дасканалы паказ вакальнай стараны пры адсутнасці драматычнай дзеі. Рэжысёрам Златагоравым за аснову ўзята драматычная дзея і праца над вобразам. Партыя Герцага асабліва добра ўдалася артысту Балоціну, які стварыў паўнацэнны вобраз суровага і жорсткага самадура і сластолюбца".

Для партыі Альфрэда ў "Травіяце" артыст знаходзіў мяккія, пяшчотныя інтанацыі. Раскрыццю вобраза Альмавівы ў "Севільскім цырульніку" дапамагала віртуозная вакальная тэхніка і вялікае камедыйнае сцэнічнае майстэрства. З імем Ісідара Балоціна звязана таксама выдатнае ўвасабленне на опернай сцэне вобразаў Фауста, Каварадосі, Дуброўскага, Юродзівага, Вадэмона, Вертэра, Вашака, персанажаў беларускіх нацыянальных твораў — Міхася ў "Міхасі Падгорным", Сёмкі ў "Дзяўчыне з Палесся" Я. Цікоцкага, Кандрата ў "Кветцы шчасця" А. Туранкова, а таксама пана Дамазы ва ўпершыню пастаўленай на Беларусі оперы С. Манюшкі "Страшны двор".



Мая маці, салістка оперы Доня Кроз успамінала І. Балоціна як таленавітага спевака, шчырага, добрага чалавека, расказвала пра яго незвычайны артыстызм. Яны былі партнёрамі ў спектаклях "Травіята", "Рыгалета": ён — Альфрэд, Герцаг, яна — Віялета, Джыльда. Мне даводзілася прысутнічаць у зале, захапляцца суладдзем гэтых оперных вобразаў — і музычным, і сцэнічным. А ў часы Вялікай Айчыннай яны разам былі ў канцэртнай франтавой брыгадзе, выступалі перад салдатамі, афіцэрамі ў перапынках паміж баямі, часам нават на перадавой, бывала — за гадзіну-другую да бою, таксама рызыкавалі сваім жыццём. Недалёка страпялі, рваліся снарады, а яны спявалі, падбадзёрвалі байцоў.

Трэба было чуць, як захоплена Ісідар Балоцін выконваў камерны рэпертуар, песні. Гэта былі творы М. Глінкі і П. Чайкоўскага, С. Рахманінава і Р. Шумана, Ф. Шуберта, Г. Свірыдава, Ц. Хрэннікава, М. Блантэра, І. Дунаеўскага, У. Алоўнікава, А. Багатырова, Я. Цікоцкага. У яго выкананні вядомая песня Уладзіміра Алоўнікава "Радзіма, мая дарагая" нярэдка гучала па Беларускім радыё. Адчувалася такая глыбокая, шчырая любоў да сваёй Айчыны!

Паклоннікаў у спевака было нямала. "На яго" людзі спецыяльна прыходзілі ў тэатр. Нават каб пачуць, як ён у партыі Альфрэда свабодна браў "до" трэцяй актавы.

"Ён цаніў гумар, з захапленнем расказваў анекдоты. Яго любілі артысты, музыканты, — успамінае былая оперная спявачка Клаўдзія Ясінская. — Я бачыла яго розным: мяккім, пяшчотным, добрым, але ж і нервовым. Барані Бог, нехта адцягваў яго ўвагу перад спектаклем! Гэта ж замінала сканцэнтравацца на вобразе, які трэба ўвасобіць на сцэне. Неяк мы разам удзельнічалі ў "Севільскім цырульніку". Я выконвала партыю Разіны, ён — графа Альмавівы. Трэба было бачыць, як ён памайстэрску пераўвасабляўся. Кожнае з'яўленне камічнага персанажа выклікала смех не толькі ў публікі, але ў аркестрантаў, у партнёраў па сцэне. Сам ён быў проста цудоўным партнёрам, ніколі не выстаўляў сябе, дапамагаў іншым артыстам. Можна сказаць, што ён не граў, а жыў вобразамі, заражаў іншых выканаўцаў. Быў вельмі акуратны і ў жыцці, і на сцэне. Да свайго касцюма адносіўся вельмі прыдзірліва. Як жонка, я заўсёды адчувала яго акуратнасць: на другі дзень ён ніколі не апранаў тую ж кашулю. Мяккім, інтэлігентным, ніколі не быў ганарлівым, фанабэрыстым, ніколі не падкрэсліваў, што ён — народны артыст, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі".

Больш за 40 гадоў Клаўдзія Сямёнаўна дагледае магілу Ісідара Міхайлавіча. Праўда, рабіць гэта нялёгка: ёй самой ужо 85. Але хадзіць на магілкі больш няма каму.

Сёлета, у год 70-годдзя тэатра, нельга не ўспомніць пра непаўторны першы тэнар беларускай оперы, які аддаваў усяго сябе сапраўднаму мастацтву.

**Вера КРОЗ**

*НА ЗДЫМКАХ: народны артыст І. БАЛОЦІН (фота зроблена ў 1943 г. у Горкім, дзе тады працавалі артысты Вялікага тэатра Беларусі); з Д. Кроз у "Травіяце"; у партыі Вадэмона ("Іяланта"); у сцэне са спектакля "Травіята".*




ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**В. А. ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**Прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**
**адказны сакратар — 284-8204**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 236-6113**
**Тэл./факс — 284-7965**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1637
Нумар падпісаны ў друк 19. 09. 2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае Пасведчанне № 715

Заказ 2279

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ФРАШКІ

**Міхась МІРАНОВІЧ**

### На дурніцу

*Не, не выйшла*
*Шчасце на дурніцу!*
*Хоць ты знoўку*
*Пачынай з нуля!..*
*Я усё жыццё*
*Лавіў сініцу,*
*Спудзіўшы пры гэтым*
*Журайля...*

### Грэх

*На вашых вуснах*
*Цепліцца усмех,*
*Ласкавы позірк*
*Здольны пагубіць.*
*Кахаць чужых жанчын,*
*Канечне — грэх,*
*Але ж і грэх —*
*Такую не любіць!..*

### Фауна і флора

*Дзякуючы дачы,*
*Агароду,*
*Лепш стаў ведаць*
*Матухну-прыроду:*
*З фауны —*
*Мне больш вядомы крот,*
*З флоры —*
*Болей пырнік і асот.*

### Не трэба бэсціць парадыста

*Паэце,*
*Дарма парадыста не бэсці,*
*А лепш памяркуй*
*І ўтаймуй сваю злосць:*
*Бо дзецям ягоным*
*Патрэбна штосьці есці,*
*Яшчэ ж —*
*Хоць адзін з чытачоў*
*ў цябе ёсць!..*

### Паэты

*Ёсць паэты-пачаткоўцы,*
*Ёсць масцітыя.*
*Знакамітых кола,*
*Мо, наўмысна, звужана.*
*Ёсць паэты,*
*Незаслужана забытыя.*
*Шмат і тых,*
*Каго мы помнім незаслужана.*

### Яшчэ рыпім!..

*Рыпяць*
*На мужыкоў кабеты,*
*Рыпяць канапы,*
*Калі спім,*
*І пёрамі*
*Рыпяць паэты...*
*Выходзіць —*
*Мы яшчэ рыпім?!*